# ЯКУБ КОЛАС

# КАЗКІ ЖЫЦЬЦЯ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК — 1926

ЯКУБ КОЛАС



# КАЗКІ ЖЫЦЬЦЯ

АПАВЯДАНЬНІ







ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1926

## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

Не ў аднэй толькі людзкай душы
Зерне ёсьць хараства—
Аб ёй казку складае ў цішы
Колас нівы, трава.
Не ў адным толькі сэрцы людзей
Іскра праўды гарыць—
Аб ёй песьню пяе салавей,
Аб ёй рэчка журчыць.

**Аўтар**

## У БАЛОЦЕ

### I

Загразла ў балоце панская брычка разам з панскаю сям'ёю, слугамі, коньмі, са ўсім панскім скарбам. Урэзалася яна ў гразь па самыя калодкі, засела на сярэдзіне балота. Паляглі на чэравах коні і... ні тпррру!.. ні но!

Ніхто не чакаў такога здарэньня. Сядзяць, бедныя, як мурашкі на купіне сярод лужыны. Бяда прылучылася, як з грому. Але ня век-жа сядзець, злажыўшы рукі, трэба-ж даваць якую раду. Першы апомніўся пан і ўзяўся за работу. Перш-на-перш трэснуў ён кулаком хурману ў сьпіну, вылаяўся на ўсё балота й пусьціў у ход усю машыну. Хурман, узяўшы пугу, высьвянцаў коні. Коні задрыгалі нагамі, заварушыліся з аднаго боку на другі, і... машына стала.

Ясна, што трэба злазіць з воза. Зьлез хурман, слугі, пан, пані, паненкі. Месяцца па гразі, як мухі па сьмятане, тупаюць вакол брычкі, бядуюць, охкаюць, ахкаюць. Адзін радзіць тое, другі—другое; крычаць, таўкуцца,—толькі рэха ходзіць па балоце.

Больш за ўсіх працаваў хурман: ён махаў рукамі, аддаваў каманду, аж сам пан пачуў нейкі страх і скакаў пад хурманову дудку.

— Пхайце ў зад!— крыкнуў хурман ва ўсё горла й сам уляпіўся за аглоблю.

Пан упёрся плячом з боку; лёкай, пані й паненкі ўзад пхалі.

— Рразам!—крыкнуў хурман.

Ніхто не разьлічыў свае сілы: пані так моцна налягла, што ў гразь уляцела па калені; хурман сарваўся з аглоблі і ляпнуўся чэравам у балота, аж капялюш з галавы скінуўся. А пан як павярнуў плячом, дык аж брычку сарваў са шворна і аблажыў яе на бок. Цяпер абраз зьмяніўся: пані, цярэбля-

чыся з гразі, згубіла чаравік; хурман поўзаў ракам па балоце, а пан стаяў, узяўшыся ў бокі, і сам сабе не даваў веры, што ён абярнуў брычку.

Бяда, як бачыце, разрасталася: коні ў гразі, брычка на баку бяз шворна, і толькі два колы пазіралі ў неба, як-бы просячы ратунку.

II

А ратунак прышоў ня з неба, а з вёскі ў вобразе простых сялян. Яны даўно ўжо стаялі каля балота, зьбіўшыся ў кучу, на ўзгорку.

— Ось нялёгкая ўнясла яго сюды!

— Папаўся як у нерат: ні ўзад, ні ўперад!

— Як ты думаеш: вылезуць яны ці не?—пытаў адзін барадаты другога вусатага.

— Бяз помачы самі ня вылезуць,—важна гаварыў вусаты.

У другой кучы жартавалі з пана.

— Кепская месца абабралі яны для маёўкі.

— Ці ня думалі яны з брычкі рыбу лавіць?

— Як відаць, прыехалі сюды траву жаць цялятам.

Жарты сыпаліся за жартамі,—толькі сьмех разьліваўся па балоце.

— Скідай, Андрэй, боты, ці што; ідзі, хоць паненак вынесі на бераг.

Худы, высокі Андрэй вынуў з зубоў люльку, выпусьціў з роту дым і засьмяяўся, замахнуўшыся цыбуком на таго, хто падаў яму такую раду.

— А ўсё-ж такі трэба памагчы.

— Пойдзем, паможам!

І з пяцьдзесят сялян паскідалі лапці, падкасаліся і сьмела рушылі ў балота; толькі пырскі ляцелі з-пад ног ды ўздымаліся бульбаткі.

— Памагай бог!—гукнулі сяляне.

— Дзякуй вам, хлопцы!

Няскора сяляне прыступілі да работы. Яны сталі распытвацца: як? чаму? чаго? Ці ня выпіўшы быў хурман?

Адзін разглядаў панскую брычку, шараваў рукою, хваліў, што добра памалёвана.

— Ну, хлопцы, годзе языкі мянціць!—сказаў стары Пятрусь,—а то й сонца нам зойдзе ў балоце. Бярэцеся?

— Бярэмся! Куды-ж ты возьмешся?

— І як ты езьдзіш, каб ты жыватом езьдзіў? Дзе твае вочы?—накінуўся Антось на хурмана.

— А ты ня лайся...

— Ня лайся, ня лайся!—перакрывіў яго Антось:—дурня павучыць ня шкодзіць

— Калі прышоў, Антось, памагаць, то памагай, бо вас ніхто не прасіў, мы і сваімі сіламі выратуемся,—важна сказаў пан.

— Годзе, хлопцы, сварыцца,—умяшаўся ізноў стары Пятрусь:—Грыгор! камандуй ты.

З сялянскай чарады выступіў Грыгор, шыракаплечы з рудою барадою.

III

Грыгор борзда павёў дзела.

— Хлопцы, адвярнем наўперад брычку. Ну, жыва! Вы, Антось, Яська, Базыль і Кірыла, бярэце з боку, а ты, Ігнась, Карусь, Даніла й ты, Алесь і Гаўрыла,—з другога. О так! А цяпер ты, Гілёрык і Хлёрка, пад зад падтрымайце. Ну, рразам!

Мужчыны дружна падхапілі каляску і адвярнулі, а адварочваючы, выкінулі панскае сядзеньне, адкуль пасыпаліся бутэлькі з выпіўкамі і вяндліна, заверчаная ў папер.

— Мядзьведзі вы!—крыкнуў пан:—толькі шкоды наробіце

— Эх, пане, дзе чубы трашчаць, там і пэйсы ляцяць,—сказаў Грыгор.

— Пусьці сьвіньню пад стол, то яна захоча й на стол,—нявытрываў хурман.

— Ну, годзе!—работа ня скончана,—камандаваў Грыгор:—адцягнем покі што брычку, а перадок няхай тут пабудзе. Жыва, хлопцы, жыва,—будзе водка й піва.

— На што цягнуць,—зыкнуў пан:—прышварнуйце толькі да перадка.

— Не, ня так: наўперад адцягнем брычку на груд, каб спраўней было каля коняй завінуцца. Выпрагаць трэба.

— А на што?

— Ну, гэта мы ўжо лепей ведаем.

— А ні чорта вы ня ведаеце!

— Слухай толькі нас—усё добра будзе,—казаў Грыгор:—мы жыва адцягнем брычку на груд, выпражам коні, бо з брычкаю ня ўстануць.

— Пся крэў!—вылаяўся пан.—Рабеце, як я вам кажу!

Брычку прышварнавалі да перадка.

Пан узяў пугу і закамандаваў:

— Пхайце, пхайце, хлопі!—а сам б'е коні ды крычыць:—но! но!

Рвануліся коні, забілі галовамі аб балота ды глыбей у гразь аселі.

— Да слухай ты разумных людзей, вар'ят! - ускіпеў стары Пятрусь.

— Пхайце, пхайце, пся маць!

— Куды пхаць? Гэта табе ня гладкая дарога!

— Ідце до д'ябла, хамове!—узлаваўся пан.

— Лепш ты сам з д'яблам застанься.

— Пойдзем, хлопцы, дадому!

І пашлі.

На балоце стала цёмна.

А брычка і паны ўсё глыбей у гразь лезуць.

1907 г.

# ЖЫВАЯ ВАДА

I

Даўно, даўно, не за нашу памяць было гэта.

Шчасьлівы то быў куточак белага сьвету.

Вольна жылося людзям у тэй краіне. Ніхто іх ня гнаў, ніхто іх ня крыўдзіў, нікому яны не належалі. Багатая, урадлівая была іх зямля. Шырока раскінуліся іх палі, зялёныя травы сенажацяй калыхаліся па ветры. Ціха і весела сьмяяліся кветкі, пазіраючы сваімі пахучымі галоўкамі ў раку, каторая паіла ўвесь той вугалок і тых, хто жыў і рос там, і давала яму жыцьцё. Усё жыло каля ракі, гэту раку людзі называлі Жывою Вадою. Усё жывое і няжывое любіла яе, і песьні волі разьліваліся па ўсіх кутках шчасьлівай старонкі.

Але ня доўга астаецца шчасьце на адным месцы. Кінула яно і той слаўны куточак.

Нешта страшнае і невядомае для чалавека зрабілася там. Нейкая цёмная сіла пазайздросьціла шчасьцю людзей.

У тым месцы, адкуль выцякала Жывая Вада, зямля стала ўздувацца; борзда, як грыб, вырастала гара. А Жывая Вада пачала неяк мялець і скора зусім згінула дзесьці ў зямлі. Толькі сьлед, дзе цякла яна, надоўга астаўся на зямлі й гаварыў людзям пра даўнейшае жыцьцё.

Гара ўсё расла. Праходзіў час, пусьцела зямля, з гары сыпаўся жоўты пясок і закрываў чорны грунт. Людзі зьбяднелі, птушкі разьляцеліся. Ня чутно ўжо было там вясёлых песень. Толькі арлы ды каршуны вілі свае гнёзды на высокай гары, каторая ўсмактала ў сябе Жывую Ваду.

II

Бяднеў год ад году калісь-то багаты край. Ураджайны грунт засыпаўся зусім пяском. Многа працавалі людзі, многа пралівалі поту. І праца іх прападала, і скупа плаціла зямля за

іх работу і пакуту. Разьвяліся чэрві на іх агародах—некаму было зьніштажаць іх, бо каршуны і ястрабы разагналі птушак.

Расказваў бацька сыну пра даўнейшае жыцьцё—пра багацтва іх краю, пра гару, каторая глынула іх Жывую Ваду, сама стала расьці, а жыцьцё ўсяго краю прыгаварыла к марнднай сьмерці. Глухая злосьць на праклятую гару падымалася ў сэрцы людзей і памяць аб Жывой Вадзе не прапала.

Ня мала знаходзілася сьмелых людзей, каторыя йшлі на гару шукаць Жывой Вады.

Бралі яны рыдлёўкі, адкопвалі гару. Але з гары сыпаліся ў іх каменьні, разьбівалі ім галавы. Каршуны і ястрабы зьляталіся хмарамі, выдзёўбвалі ім вочы. А пугач і сава ў ночы сьпявалі ім „вечны спакой“ сваім нудным крыкам.

Многа, многа людзкіх касьцей валялася вакруг гары, а каршуны і крумкачы разнасілі іх па ўсіх кутках спустошанага краю. І людзі празвалі сваю старонку „Мёртвым Полем“.

Дзіка і пуста стала ў „Мёртвым Полі“. Людзі хадзілі, як цені, галодныя, прыгнечаныя. Птушкі даўно перасталі там сьпяваць свае песьні. Толькі каршуны кружыліся ў небе, каркалі крумкачы і наганялі нуду на душу людзей, невядомым страхам палохалі сэрца, розум.

Нават лес адмяніўся: старыя дзярэўі даўно згіналі і ляжалі ў зямлі, а новыя былі нізкія, крывыя, няўдалыя,—як сухотныя. Рэдка заглядалі туды хмары, і мала калі падаў дождж.

III

Насталі сухія гады. Апошні выдаўся такі год, што ні разу ня падаў дождж на ўсё лета. Кожны дзень неба аставалася чыстым, ясным, гарачым. Усходзіла сонца, борзда сушыла расу, што блішчэла ранкам, як сьлёзы, на лісьцях расьліны. А сухі вецер гуляў над зямлёю, падымаў гарачы пясок, высысаў апошнія сокі з зямлі. Лес, поле, луг з нуднаю мальбою пазіралі на неба, прасілі вады прагнаць сваю смагу. Дзярэўі глуха шумелі і зьлівалі свой шум у вадну доўгую, невядомую людзям песьню. Жаласна ківаліся каласы ў полі, то кланяліся зямлі, то падымаліся к небу,—усё роўна як прасілі ратунку.

Ніхто ня шоў ім на помач, і яны без пары старэліся, жоўклі і бяз жыцьця качаліся на сухіх саломках. Трава і кветкі ціхутка шапталі ветру аб сваёй нядолі. Церплівыя каменьні

і тыя нылі ад жару і лопаліся. Сама зямля зморшчылася, як старушак, пакалолася і плакала. Яе сьлёзы апошнімі капелькамі расы выступалі наверх, яе просьба белаватым туманам зьвісала над лесам і разнасілася ветрамі па сьвеце. Плакалі людзі, плакала зямля і ўсё, што расло і жыло на ёй. Незаметна несьліся к небу іх сьлёзы, нясьліся яны ня год і ня два, а цэлыя вякі, а там недзе сплываліся ў адно месца. Тыя сьлёзы, горкія скаргі, усё гора зямлі—зьмяшаліся разам і зьвісьлі над ёю страшнаю чорнаю хмараю.

## IV

А дзе-ж дзелася Жывая Вада?

Яна была пад зямлёю, яна паціханьку размывала зямлю, прабівала сабе дарогу на вольны сьвет. Ніхто гэтага ня ведаў. Ня ведала і гара, што вісіць яна над бяздоньніцаю. А Жывая Вада чакала толькі шчасьлівага здарэньня, каб скінуць з сябе цяжкасьць,—праклятую гару, што з шчасьлівага вугалка зрабіла „Мёртвае Поле“.

І настаў такі час, што пралітыя сьлёзы перапоўнілі неба і паліліся назад на зямлю. Ня ў сілах было само неба стрымаць тыя сьлёзы. Самі яны рваліся туды, дзе радзіліся патроху, падымаліся ўверх.

Людзкая жалоба, гора, пакута, усё няшчасьце зямлі, што зьбіраліся тысячамі гадоў, паліліся цяпер са сьлязьмі аднэй хваляй.

Ціхая скарга грымела ў небе страшным голасам грому і калыхала ўсю зямлю; стогны людзкія, якіх ніхто ня чуў, блішчэлі маланкамі, а сьлёзы цяклі халоднымі, чыстымі руччамі на зямлю і ажыўлялі яе. Вада зьбіралася ў адну раку і дружна стала напіраць на гару.

Зрушылася гара; моц яе, каменьні, градам сыпаліся на ніз. Арлы, каршуны, крумкачы, ястрабы, совы пазьляталі з гары, каб запыніць ваду.

Пачула і Жывая Вада, што робіцца над ёю. Сабрала яна ўсе сілы свае і ўскалыхнула гару, як купіну. Тут яе падхапіла дажджавая рака. Страшны шум пашоў па „Мёртвым Полі“.

Усё жывое дрыжала ад страху і чакала пагібелі. Але згінула адна гара. Пяском і дымам разьвеялася яна па полі.

Гневалася неба, бушавала вада, траслася зямля. Ліліся рэчкі на кожнай разоры і зьліваліся з Жывой Вадою.

Прашоў страшны момант і стала спакойна. Вада ўся зьлілася ў старае дно Жывой Вады, і жыцьцё, стрыманае праз доўгі час гарою, ізноў пашло сваёю дарогаю, і ажыло „Мёртвае Поле“.

1907 г. Вільня.

## ДУДАР

Тром родным братом прырода дала аднакі розум, аднакія мысьлі і думкі. Толькі няроўная доля спаткала кожнага брата ў жыцьці.

Хоць усім братом ня вельмі соладка жылося, але Меншаму Брату выпала самая горшая доля. Прысудзіла яна яму самы горшы куток, кінула між мхоў і балот.

Кепска жылося Меншаму Брату.

Плакаў ён, і ніхто ня бачыў яго сьлёз або не хацеў бачыць. Сьпяваў ён і песьні — доўгія, нудныя песьні, песьні нядолі. Складаў ён і казкі, і толькі ў казках ён бачыў сябе шчасьлівым. Яго сьлёзы капалі разам з расой на зямлю. Грэла сонца, і сьлёзы, зьмешаныя з расой, паднімаліся к небу і адтуль кідаліся назад на зямлю чыстымі кропелькамі.

І так яны вечна кружаць з зямлі на неба, з неба на зямлю. І ніколі не высыхалі вочы Меншага Брата. Тоўсты, высокі лес адзін толькі слухаў яго песьні і сам памагаў яму сьпяваць сваім доўгім шумам.

Выходзіў Меншы Брат у вечар на двор, браў сваю дудку садзіўся на прызьбе свае хаты і граў. Па небе каціўся месячык, плылі белыя хмаркі. Зоркі, як саромлівыя дзяўчаткі, пазіралі на зямлю праз белыя, тонкія хмаркі і слухалі Меншага Брата, як граў ён на дудцы. І ціха было на сэрцы, як ціха была сама ночка. І думкі, як тыя хмаркі, лёгка радзіліся ў сэрцы і плылі яны невядома куды, далёка-далёка, уміралі ціха-ціха, як паволі раставалі і белыя хмаркі ў небе. Толькі пугач і сава жудасным крыкам сваім будзілі ад шчасьлівых думак Меншага Брата. Ён прачынаўся, як ад сну, і думкі другія, думкі нядолі калолі яму ў сэрца.

Ні думак, ні песень яго ніхто ня знаў і ня чуў, або не хацеў знаць і чуць. Яго жальба прападала, як прападаў туман з

усходам сонца, што вісеў над балотам. Разумеў яго адзін толькі лес, і лесу адкрываў Меншы Брат свае думкі, бо людзі сьмяяліся з яго слоў і песень. А з лесам жылося вальней: лес не давіў яго, ня гнаў, як гналі і прыгнячалі яго людзі, і Меншы Брат зрабіўся ціхі, спакойны, асьцярожны і нікому не адкрываў свае душы. Меншы Брат адзічэў. Лес і балота адгарадзілі яго ад белага сьвету.

Прашло многа часу.

Усе тры браты сустрэліся. Старшы Брат пазіраў сьмела. Ён быў у ботах, у крамных портках і кашулі, а паверх кашулі—камізэлька.

Гаварыў Старшы Брат скора, мова яго была адменна, і Меншы Брат ледзьве мог разьбіраць яго.

На Сярэднім Браце была высокая шапка, шырокія белыя порткі, боты.

У зубах круглая люлька на кароткім цыбуку, гаварыў ён мала.

Меншы Брат выглядаў старэйшым за іх абодвух. Барада яго была сівая, рукі дрыжалі. Сам ён быў тонкі, худы. Яму як-бы брыдка было перад братамі, што на ім сівая рваная сьвітка, круглая шапка-кучомка, на нагах лапці, а каравыя анучы абвівалі худыя ногі.

Гаварылі браты аб усім: аб горкай сваёй долі, аб праўдзе, аб жыцьці.

Меншы Брат маўчаў. Яму не давалі гаварыць тэй мовай, якой гаварыў ён сам з сабой, з сваімі думкамі, з лесам. З яго мовы сьмяяліся старшыя браты.

— Гавары ты так, як гавару я,—казаў Старшы Брат,—і не стракаць ты мову людзкую. Твая мова—нямая мова. Што сказаў ты сьвету на сваёй мове? Хто чытаў твае думкі, работу твайго розуму і сэрца? Дзе песьняры твае? Чым ты пахвалішся?

— Лепшай мовы я ня чуў. Гавару, як умею. Брат! хто доўга маўчаў, таму хочацца многа гаварыць: не адбірай ты ад мяне хоць гэтага права.

Спытайся ў хваёвых крыжоў: яны табе скажуць пра мае думкі. Мае думкі напісаны сьлязьмі, а сьлёзы разам з думкам

разьліліся ў рэчцы. Вецер—пясьняр мой. Гора і боль радзілі мае песьні, іх слухаў і лес. Спытай у леса—ён скажа пра песьні мае.

Скажу табе казку.

Пасадзіў пан дудара ў глыбокім склепе за каменныя сьцены. Кажа яму пан: „Грай мне на дудцы, каб я чуў твае песьні, і тады я пазволю табе сьпяваць людзям песьні, дарую права расказаць сьвету пра думкі твае“.

Праз каменныя сьцены ня выбілася песьня дудара, і ніхто яго не пачуў. „Ты павінен маўчаць!“ кажа пан дудару: „бо песьня твая нічога не сказала майму сэрцу. Няхай застаюцца ў табе твае думкі й песьні“.

І дудара з таго часу слухала пустое балота і лес.

Брат! усе мы шукалі шчасьця, толькі йшлі мы не аднакімі дарогамі. Табе хоць трохі сьвяціла сонца, а я йшоў, як уночы. Запалім-жа мы лучыны і пойдзем яшчэ шукаць долі, будзем памагаць адзін аднаму, а як заблудзіць хто знас, падамо яму голас. *Ня сьмейцеся-ж, браты, і не адбірайце ад мяне таю, што можа адабраць толькі прырода.*

І сьлёзы блішчалі на вачох Меншага Брата.

1906 г.

## АДЗІНОКАЕ ДРЭВА

Гэта было самае звычайнае Дрэва. А калі яно і звара-чала на сябе ўвагу, то хіба толькі тым, што стаяла адзінока. Але той, хто ўнікліва чытаў кнігу прыроды і ўглыбляўся ў яе жыцьцё, яшчэ прымеціў-бы, што гэтае Дрэва, апроч свае адзі-ноты, мела нешта чыста сваё асоблівае,—тое, што прына-лежала толькі яму аднаму. Нават агульны выгляд яго твару— бо і дрэва мае свой воблік—меў характар цікавай асобнасьці. А як такіх шчырых і ўспагадных знаўцаў або зусім ня было, або было надта мала, то ніхто не зварочваў на яго ўвагу, і яно стаяла тут закіданае і крыху зьняважанае людзьмі.

Сьпярша нават здавалася, што гэта закіданае адзінокае Дрэва стаяла з боку жыцьця—больш гібела, чым жыло, а на праўду выходзіла, што яно жыло шмат паўней і глыбей пачу-вала жыцьцё нават ад тых дрэваў, што расьлі ў лесе. Такі ўжо характар адзіноты: гэта яе ўрода, яе істота. І хто хоча жыць паўнейшым жыцьцём і гастрэй пранікаць яго цемры-глыбіны, той павінен быць адзінокім і незалежным.

Адзін толькі Вецер любіў часта варушыць лісьцё гэтага Дрэва, гойдаць яго галінкі і шаптаць яму хітра-лісьлівыя на-мовы. Толькі Вецер,—хоць і часта ён дзьме ў пустых гало-вах,—умее быць сталым, умее маўчаць.

Праўда, крумкач-гарапашнік не адзін раз чуў тыя раз-мовы-шэпты Ветра і Дрэва. Але крумкач залішне важны для таго, каб разносіць чужыя гутаркі па сьвеце, хіба так, зьня-чэўку, прамовіцца калі. Затое-ж крумкач, калі што скажа, то скажа праўду. Затым-жа і вароны паважаюць яго, як біс-купа.

Была тут яшчэ адна важная асоба, без якой не адбыва-лася ніводная тутэйшая справа. Асоба гэта—Ручаёк. І часта, бывала, ішла жывая гутарка між Ветрам, Дрэвам і Ручайком,

а крумкач, начуючы тут, любіў паслухаць іх гаворку і сам нават устаўляў сваё мудрае слова.

А што было ўсяго найдзіўней, дык гэта тое, што як Вецер, так і Ручаёк крэпка палюбілі адзінокае Дрэва; па гэтай прычыне ніколі ня было згоды між Ветрам і Ручайком. Кажу „палюбілі“, бо йначай трудна назваць іх такую шчырую прыхільнасьць.

Але трэба памятаць, што бадай ня кожная рэч мае два бакі: паказныя і праўдзівыя.

Можа гэта з паказнага боку здавалася, што Ручаёк з Ветрам моцна ўкахаліся ў Дрэва. Няхай аб гэтым судзяць мудрыя і кемныя людзі, а я толькі раскажу, як усё тут было.

Вясной і ўлетку часта-часта прылятаў Вецер да Дрэва, абымаў яго і сваімі пацалункамі асушаў роску з зялёнага лісьця яго.

— Як я люблю цябе, маё ты мілае і прыгожае!—гаварыў Вецер:—ты слухай толькі мяне і больш нікога, спусьціся на маю сьвядомасьць, на сілу маю, на маё моцнае каханьне. Можа холадна табе? Я праганю хмары, ачышчу неба і скажу сонцу, каб грэла цябе. Люблю я дзетак тваіх, бо твае дзеткі—мае дзеткі.

І Вецер прынікаў да яго яшчэ цясьней і абымаў яго моцна-моцна.

Дрэва ўсё дрыжала ня то з радасьці, ня то ад трывогі і асыпала сваё насеньне. Вецер падхопліваў яго і нёс далёка-далёка. За доўгія часы ён многа занёс сюды гэтага насеньня. З насеньня таго вырас цэлы лес, дзе і спачываў, калі было горача, гэты хітры і злы Вецер. Як толькі ён вывіхроўваўся ў сьвет, пачынаў балбатаць Ручаёк, цякучы каля саменькага карэньня.

— Ведаеш, рыбка,—журчэў Ручаёк:—мне здаецца, што гэты вецер—фальшывы твой прыяцель. Языком ён намеле няма ведама чаго: ён табе і хмары разгоніць, і сонцу прыкажа,—слухай яго толькі.

А ў восень вунь якія штукі выкідае! А зімою што робіць? Ты заміраеш на ўсю зіму, нічога ня чуеш, што ён тут вытварае. А я хоць праз лёд, ды чую. Сьвістун! Ня слухай ты яго! Дзе твае дзеткі? Усіх разагнаў ён, а ты адно стаіш тут, як

сірата, і твае дзеці сьмяюцца з цябе, бо так панавучаў іх Вецер. Іншая справа—я. Перш-на-перш мы суседзі, і ў нас многа супольнага, што трэба моцна трымацца адно другога, бо мы—дзеці зямлі...

Ня скончыў Ручаёк гаварыць, бо наляцеў Вецер і сыпнуў са злосьці ў ручаёк цэлае воблака пылу.

— Высушу, як шкурат у пятроўку,—пагразіў сярдзіты Вецер.

— Уй, батрак сусьветны,—сказаў Ручаёк, пацямнеўшы ад пылу.

— Што?

— Батрак! батрак! батрак!—грымеў Ручаёк.

— Я цар усяго сьвету!

— Кажы гэта дурнейшым ад самога, а ня мне, валацуга! Ці-ж можна табе верыць, калі ў цябе сем пятніц на тыдні!

Адным словам, угнявіўся Ручаёк ды цярпеньня ня стала і ён пабег далей, бубнячы ўсю дарогу на Вецер: яму было крыху крыўдна, бо Дрэва больш хілілася да Ветру, чым да яго.

Чаму?

Ручаёк ніяк ня мог узяць гэтага на розум. Праўда, урэшце ён застанавіўся на думцы, што Вецер больш мае ўвагі ад Дрэва затым, што ён языком меньціць і туды і сюды, не гаворыць праўды, а замазвае вочы рознымі байкамі.

Як-бы там ні было, а гэта ніколічкі ня цешыла Ручайка, і яму ад гэтага ня было лягчэй.

А што думала само Дрэва?

Яно часто нудзілася тут адно. Яму хацелася пабачыць сваіх дзетак, пагутарыць са сваімі роднымі, затым і выглядала яно такім задуменным і смутным. За доўгія часы яно прывыкла да свае адзіноты і страх як любіла азіраць гэта жыцьцё, што кіпела ўвакол, і ўсе зьявы, якія вынікалі і на небе, і на зямлі. І бывалі ў яго такія моманты, калі нічога ня думалася, было так лёгка і добра, і самі лісьці яго ціха сьпявалі. Любіла яно паслухаць, што гаманіў непаседа-Вецер, таксама і Ручаёк любіла яно, толькі ня ўмела сказаць, як яно любіць яго.

А Ручаёк палічыў гэта за пэўную няўвагу да свае асобы.

Толькі-ж раз паднялася навальніца. Хмары, як мухі над гаршком куцьці, віліся чорным роем над зямлёй, апяразваючы агнявістымі йстужкамі і трасучыся магутнымі громамі. Страшна

было. Але трэба было ўмяшацца тут Ветру, і цяпер ён зьявіўся такім, якім ён і ёсьць па сваёй натуры: буянам і забіякам. Чуць-чуць стрывала беднае Дрэва—так рваў і крышыў яго Вецер.

Нават крумкач павінен быў моцна ўшчаміць кабдзюрамі галіну, каб ня скінуцца.

— Здаецца, я табе не насеньне з гэтага Дрэва, што хочаш сарваць і мяне для свае забаўкі,—сярдзіта сказаў крумкач.

Тут у Дрэва разьвязаліся вочы; пазнала яно, які хітры і злы яго прыяцель.

Угнявіўся й Ручаёк. Ён надзьмуўся, насупіўся, пацямнеў і выкаціўся з берагоў, запенены ўвесь.

Зьняважаны Дрэвам, як здавалася яму, ён адышоўся далей.

І ўбачыла Дрэва, што сябры пакінулі яго. І яшчэ мацней зажурылася яно.

— Што рабіць?

— Пусьціць глыбей карэньні ў зямлю,—сказаў крумкач, мудрая галава, лятучы на раздабыткі.

1912 г.

## ЗЛО—НЕ ЗАЎСЁДЫ ЗЛО

Цэлае лета вісеў Жолуд на старым дубе.

Невядома, як далей, а пакуль ён быў малы, вялікага гора зазнаць яму ня прышлося. Праўда, на яго тады ніхто не звварачаў і ўвагі: як-бы яго і на сьвеце ня было. Толькі сонейка, выглянуўшы з-за лесу, узіралася на яго і пеставала сваім цяплом, бы тая маці.

А калі, бывала, яно прыпякала надта горача—любоў часта пераходзіць свае граніцы—маленькі Жалудок хаваўся ў цяньку густых лістоў, як пан пад парасонам, і яму заўсёды было добра.

Так і вісеў ён, ні для кога незаметны.

Але-ж, урэшце, вісець яму абрыдла.

Яно такі і праўда: як-бы там ні было добра, але калі гэтае дабро цэлы век астаецца бяз усякай зьмены, то яно лёгка перастае быць дабром. Гэтак было і з Жолудам: захацелася яму другога жыцьця, так і цягнула яго саскочыць з галіны і пакачацца на мяккай зямлі. Ня раз ён ужо парываўся зрабіць гэта.

Сказаўшы праўду, трохі з ветру гарыць сьвет. Бывала, чуць што ўзыйдзе сонца, гэты жартаўнік і штукар-Вецер зараз і падкрадзецца, але так, каб ня чуў стары дуб, і пачне баламуціць дубовых сынкоў. Што казаў Жолуд—ня ведаю.

Болей сьмелы Вецер гаварыў грамчэй, і вось што раз шаптаў ён Жолуду:

— Дурны ты! я пражыў на сьвеце болей вякоў, як лістоў на гэтым дубе, і кажу табе: раз у цябе ёсьць сіла, ты заўсёды знойдзеш спосаб жыць на сьвеце, і ты праб'еш сабе дарогу—што жывое, жывым і застанецца.

А стары дуб тымчасам гаварыў так:

— Сынок! патрывай яшчэ трошкі, падрасьці, уздужай. О! ты яшчэ ня ведаеш, як цяжка жыць на сьвеце. Паслухай мяне, старога.

Ведама, бацька. Шкада яму сына.

— Ня пускае бацька,—ціхенька шаптаў Жолуд на намову Ветра.

І трэба-ж было, каб гэту гутарку прачула сьвіньня! Раз, ужо зусім пад восень, Жолуд убачыў, як пад дуб, рохкаючы, трушком падбягала лапавухая асоба.

Углядзеўшыся добра, Жолуд абамлеў: на зямлі ляжала шмат такіх-жа, як і ён, Жалудоў, а сьвіньня хрумстала іх бяз усякай жаласьці. На тое-ж яна і сьвіньня.

З вялікага страху бедны Жолуд задрыжаў, вылузаўся з місачкі і ўпаў на зямлю ў двух кроках ад сьвіньні! Але ўпаў ён якраз у тую яміну, што вырыла сьвіньня сваім доўгім лычам.

І вось што вышла: сьвіньня хацела паесьці Жалуды і памагла вырасьці аднаму Жолуду, вырыўшы яму пасьцельку. Жолуд на другі год прарос і стаў дубком, а сьвіньню людзі закалолі, і яна стала мясам.

19.2 г.

## КАЖУХ СТАРОГА АНІСІМА

Хто толькі знаў старога Анісіма, той знаў і яго стары кажух. Ніколі ён з ім не раставаўся—ні летам, ні зімою.

Такі ўжо быў звычай у старога Анісіма. А як ён шанаваў гэты кажух!

Ад доўгіх часоў свайго жыцьця кажух зусім сашмуляўся, выліняў, і сам чорт не сказаў бы,—ці гэты кажух быў белы, ці чырвоны. Ды і сам гэты кажух стаў непадобны да кажуха, а калі яго і называлі кажухом, то называлі ў сілу звычаю.

Паміж мужыкоў было многа жартаў пра гэты кажух. Дзеці проста пальцамі тыкалі на яго, чуць толькі дзед Анісім, пакажацца ў ім на вуліцу.

А дзед як-бы і ня чуў, і вухам ня вёў. Толькі ўжо ў канцы, як стануць надта дапякаць яму, ён усярдуецца.

Калі кажух і трымаўся так доўга, то трымаўся толькі дзякуючы старому Анісіму: чуць дзе пакажацца дзірка, Анісім браў голку, ніткі, чапляў на нос акуляры і садзіўся за рапарацыю кажуха. Зашые адну дзірку, паложыць латку, прыгладзіць, глядзіш—у другім месцы кажух разлазіцца. Зноў дзед садзіцца за работу. Потым ён больш нічога не рабіў, як толькі клаў латкі. Латка чаплялася за латку, то як кастры аладак, то як кучы медзякоў. І ня было на кажусе ні аднаго жывога месца: так застракацілі яго белыя і чорныя ніткі і так патыкала яго іголка. А колькі ўсякага бруду завялося ў кажусе! Ды станоўкі быў гэты дзед: нічым яго не пераставіш, ніяк не ўзьдзяўбеш яму ў галаву, што схадней зрабіць новы кажух.

— Ого, зрабіць новы кажух! Лёгка сказаць:—зрабіць новы кажух!—круціў дзед старымі калтунамі і пачынаў вылічаць, вылічаць і заўсёды канчаў тым, што рабіць новы кажух яшчэ рана.

— Гэ! ці многа ты налічыш, хто-б меў такі добры кажух? Ведаю я цяперашнюю моду. Зробіць стрынгаля і бегае, як кот з апечаным задам, калі мароз ударыць,—сьмяяўся Анісім.

— Бадай ты спрогся, стары пень!—лаяліся мужыкі:—гэта-ж ён расплодзіць такога бруду, што й не акарыскацца, заразу разьвядзе.

І вот маладыя хлопцы надумаліся ўкрасьці гэты кажух і спаліць. Але-ж як яго ўкрасьці? Праўда, цяпер дзед жыў адзін—усе паразьбягаліся ад яго. Толькі прусы ды тараканы гнязьдзіліся ў суседзтве з дзедам. І дзед так шанаваў свой кажух, ніколі з ім не раставаўся і так крэпка з ім зжыўся, што трудна было распазнаць, дзе пачынаўся дзед і дзе канчаўся кажух. А зойдзеш у яго хату, як ён сьпіць,—прусакі і ўсякі бруд так заварушыцца, што няйменна абудзіць дзеда. Толькі-ж хлопцы выбралі такую часіну. Дзед спаў. Але і спаў ён у кажусе. Думалі, думалі хлопцы, як выкрасьці кажух. Нічога ня прыдумалі, як толькі расьперазаць яго і лёганька сьцягнуць. Але старыя сьпяць чутка.

Праўда, кажух такі расьперазалі. А як сталі зьнімаць яго, дзед абудзіўся. Стары быў яшчэ крэпак. Як схопіцца ён, як пагоніцца за хлопцамі, як пачне латашыць кульбаю! Не для ўсіх кончылася шчасьліва: хто сіняк зарабіў, хто ліхтар на лбе, а хто дык і рэбраў не далічыўся. Толькі ўсьпелі зрабіць, што рукаў адарваць і кусок крыса вырваць. Але дзед уставіў новы рукаў са старой аўчынкі і нават каўнер падправіў, і ўсё-ж такі фарсіць у старым кажусе.

— Ахвота, вам, хлопцы, займаць старога! Бог з ім. Няхай дацягае свой век. Колькі яму засталося?

— А памрэ ён, і кажух пахаваем з ім: разам жылі, няхай разам і спачываюць.

Ды хлопцы на гэту гутарку ня згодзіліся, ходзяць за дзедам крок у крок ды кажух яго скубуць. А выжыўшы з розуму, дзед ганяецца за імі з кульбаю.

1912 г.

I

## НА ЧУЖЫМ ГРУНЦЕ

Самая важная прычына ўсіх яго нягод крылася ў тым, што гэта Каліва расло на чужым грунце. Хто яго ведае, як заняслося яно на зялёны луг. Але ласьне яно вінавата? Або хто вінават? І навошта шукаць вінаватага? Проста выкінулася зернятка аржаное з мяшка, як вязьлі ў млын жыта—ці-ж не магло хіба так стацца? А можа які падарожны, ідучы полем, сашмаргнуў, ня думаючы, каласок і шоў потым праз гэты луг і кінуў зернятка. Толькі-ж узрасло яно між чужынцаў: поруч з ім рос званец, мяцёлка, а каля саменькага карэньня цiснулася ўсялякая трава-драбяза: шчытнік, імяло, белая дзяцеліна, муражок і розныя краскі. Але гэтыя суседзі не хацелі знацца з сіроцінай і лічылі вялікаю ганьбой для сябе і свайго гонару кампанеўства з закіданым Калівам Жыта. Ну, што-ж! хіба змусіш каго, каб любіў цябе, раз ты нікому ня люб? Няхай!

Надышла вясна. Вясна—гэта такая пара, у якую адны толькі няўдатнікі, адны бяздольнікі, па справядлівасьці нешчасьлівыя, ня знаюць радасьці. Вясна—гэта пара, калі ўсе сьпяшаюцца скарыстаць гэты час для шырокай вясёласьці і глыбокага жыцьця сэрца.

Бывала, чуць-чуць пачне паказвацца з-за лесу сонца, а на лузе ўжо зачыналіся сьпевы, шчасьлівыя, улюблёныя шэпты чаротаў з высокай жорсткаю асакою. Падыдзе сонейка яшчэ вышэй, пачынаюць зьлятацца матылёчкі ды такія прыгожыя, так хораша ўбраныя, што найпершы зух-фарсун пазайздросьціў-бы ім. Усякія травы, кветкі, кожны кусьцік, саломінка кожная падымалі голавы, цягнуліся к сонцу, віталі яго і ў чэсьць яго курылі найлепшымі ладанамі—чысьцейшымі туманамі раніцы і прыямнейшымі пахамі сьвежых красак лугу. І сонейка віталася з імі і рассыпалася золатам, дыямэнтамі ў кожнай капельцы

расы, адлівала ўсімі колерамі вясёлкі. Закіданае каліўца жыта таксама жадала сонца і цягнулася да яго кожнаю сваёй жылкай, усім нутром сваім. Мяцёлка штурханула яго.

— Куды сунешся, мужыцкая ўцеха?—сказала задзірамяцёлка.

— Шу-шу-шу, — зашапялявіў званец (гэта сьмех яго такі),—змый наўперад пясок са свайго рыла, тады пазірай на сонейка.

— Яно тут фанабэрыі набралася, усіх адцісьнуць хоча і заняць чужое месца,—шаптала зьнізу трава-драбяза.

Слова не сказала Жытцо на такую зьнявагу. І што ты адзін зробіш проці ўсіх? А хіба жыта ня ўмее цярпець?

Якая-ж другая расьліна зазнае такога гора, як жыта? І яно цярпела, толькі сэрца ледзьве-ледзьве магло стрываць, каб не разарвацца ад жалю—так многа сабралася яго!

Хоць-бы было з кім пагаманіць, слова прамовіць, развcovered жыць сваю тугу, думкі паганыя разагнаць,—усё-ж было-б лягчэй. І толькі той пойме, як цяжка было гэтаму Каліву ў лузе, хто сам многа гараваў, многа меў у сэрцы горкіх думак, якімі не з кім было падзяліцца.

Але мінуліся веснавыя дні. У пагодзе зрабілася вялікая зьмена: пачалася суш. Заныў луг, пажаўцелі груды, цяжкія пачаліся часы. Рыжыя мурашкі хадзілі, як няпрытомныя, ня ведаючы, за што ўзяцца; пчолкі, чмелікі званілі яшчэ жудасьней, яшчэ нудней, пралятаючы над лугам і не знаходзячы сабе пажытку, толькі авадні і сьляпцы красаваліся і паганым звонам рэзалі сэрца. Конікі пазмаўкалі і толькі вечарамі расчыналі сваю жальбу.

Травы сохлі і жоўклі, прыгожыя краскі тужліва хілілі свае зграбныя галоўкі, дарэмна шукаючы цяньку, і сохлі бяз часу. Глухі шум, нараканьне пашлі па лузе, трывожна гаварыў луг пад гарачым ветрам. Пачалі травы і краскі судзіць-разважаць, вышукваць прычыны такога няшчасьця. Адзін казаў тое, другі—другое,—і ўсе шумелі, ніхто ня слухаў нікога, і толку ніякага не дабіліся.

— Спытайма хіба ў ручайка: ён самы мудры на лузе,—урэшце параіў чарот. І праўда, ручаёк тут быў самы старэйшы і болей за ўсіх ведаў жыцьцё. Стаяў тут таксама і ста-

ры дуб, але сам ён прызнаваўся, што і дзед яго не памятае такога часу, калі-б у лузе ня было ручайка. Прышлі да ручайка травы-пасланцы, бухнулі ў ногі яму—няшчасьце навучыць гнуць голавы. „Так і так“, кажуць: „навучы, што рабіць, дай ты нам раду“.

Слухаў мудры ручаёк гэту просьбу травы.

— Заўтра скажу, а цяпер дайце мне падумаць, распытаць сяго-таго.

— От што, мілыя,—сказаў назаўтра ручаёк:—сонейка ўгневалася на вас. Найдзеце між вамі самага няшчаснага, і няхай ён раскажа сонейку сваё цяжкае жыцьцё-нядолю; тады яно зжаліцца над вамі і прыкажа ветру нагнаць хмары.

— Хто-ж тут самы нешчасьлівы?

Кожнаму здавалася, што ён і ёсьць самы няшчасны.

Прылятаюць матылькі і кажуць:

— Аржаное Каліва—самае няшчаснае.

І вецер пацьвердзіў, што гэта праўда. Пасылае луг паслоў да Ржанага Калівa, кланяюцца жыту паслы, просяць заступіцца за ўсіх.

А жыта зьвесілася коласам і маўчала: цяжкая доля, зьнявага аднялі ад яго дар слова.

І сонца яшчэ гарачэй стала прыпякаць лугавыя травы.

1913 г.

# КАМЕНЬ

Такіх прыгожых месцаў, якім быў гэты куток, рэдка дзе можна знайсьці. Прынамсі, так думаў доўганосы бусел, каторы меў тут, на старадроўні, пышны палац. А бусел усё-ж такі трэцца па сьвеце і на яго словы можна мець увагу.

Шумлівая рэчка, цёмны лес, поле, луг і гурт старасьвецкіх дубоў, дзе асталяваўся бусел з сям'ёй, выглядалі весела, а падчас і шчасьліва, і гэтым самым як-бы пацьвярджалі што тут і сапраўды някепска. Але бывалі і такія выпадкі, што ўсе тутэйшыя жыхары крыху сумавалі, крыху гаравалі— бяз гэтага не абходзіцца ў жыцьці. І хто ведае: быць можа, чым часьцей даведваюцца да нас нягоды, тым глыбей пачуваньне цаны жыцьця, тым ясьней яго сьветлыя моманты.

Але самым шчасьлівым жыхаром быў тут, ведама, камень,—так злажылі і згадзіліся яго суседзі: рэчка, лес і другія. І праўда, як ні моцныя дубы, а ўсё-ж іх матлашылі і сушылі вятры, іх паліла сонца, на іх мецiліся цяжэрныя хмары залатымі стрэламі пякучых маланак, а ў час навальніцы па іх каранёх тапталіся людзі.

Таксама рэчка зынвала ад сушы ў сваіх берагох пад косамі гарачага сонца і агаляла сваё пясчанае дно. Яе чыстае лано ня раз занасілася сьмяцьцём, гразёю і розным брудам няпрошаных гасьцей—ручаёў, што вынікалі з ласкі навальніцы. Пра лес і казаць няма чаго. Ой, колькі разоў даводзіцца яму, старому, перадрыжэць усімі жылкамі за долю сваіх сынкоў, як увойдзе сюды з бліскучай сякерай на плячох бязьлітасны чалавек! Бывалі цяжкія часы і для бусла. Не патрапіш у пару вярнуцца з выраю, намерзьнешся досыць, стоячы на гнязьдзе, і духі табе падцягне, бо дзе знойдзеш спажытак у такую сьцюжу? А каменю што? Кажуць-жа—моцны, як камень, і маўклівы, як камень. Дык што яму астаецца тут?

Ляжыць сабе, як пан, у мяккім доле. Ні дождж, ні жар для яго ня страшны. Блісьне сонца, дзьмухане вецер—і сухі камень і цёпла яму. І выбраў-жа, шэльма, спалі яго сьнег, і месца прыўдалае!

Тут і рэчка табе відаць, лес, і белыя хмаркі-гускі, што плаваюць па бязьмежнаму прастору сініх небясоў.

А колькі жыцьця ўвокал яго! Чорнабровыя плісачкі любяць крыху падурэць каля каменю, а то, проста, сядуць на самы яго верх і пачнуць такія гамонкі, што толькі і можна пачуць іх у вясну. Лясная жаваранка прылятае сюды начаваць і, пэўна, гэта каменю пяе яна такія прыгожыя песьні, што душа замлявае. Што-ж, шанцуе яму—і толькі! Кожнаму свая доля.

Так казалі суседзі шчасьлівага каменю. Аднаго толькі не маглі сьцяміць тутэйшыя жыхары: камень ніводным слаўцом ня выявіў свае радасьці, што нямала ўсіх тут зьдзіўляла.

— Ну што-ж? Такая ўжо натура яго!

Але здарылася тут вось якая рэч. Прылятае раз на сваё гняздо бусел ды кажа да дубоў:

— А ведаеце, браткі, што?

— А што?—усе разам папыталі яго.

— Шчасьлівы наш камень... рассыпаўся.

— Ну?!

— Ня можа быць?—зашумела рэчка.

— Што-ж гэта такое?—прагукаў лес.

І ўсе дзівіліся такому здарэньню.

— З чаго-ж такое ліха прылучылася з ім?

І ніхто ня ведаў, што сказаць на гэта.

1913 г.

## ХМАРКА

Ня шукай ты шчасьця, долі
На чужым далёкім полі.
*Янка Купала.*

Ніякага клопату і гора ня ведала гэта прыгожая, белая хмарка. Яна ня ведала, з чаго і як радзілася на сьвет, адкуль узялася яна; ня ведала нават, ці ёсьць у яе маці. Можа затым яна і была такая шчасьлівая, што нічога ня ведала аб белым сьвеце.

Той дзень, праўдзівей, тая раніца, калі зьявілася яна на небе, была вельмі-ж ціхая—такая ціхая, што нават чутно было, як сьпявалі, седзячы на круглым лісьціку зялёнай лотаці, два прыўдалыя конікі. Сіваваронка, снуючыся каля таўшчэразнага жаралістага дубу, дзе было яе гняздо, трашчала, бы тая трашчотка, на ўвесь луг, сварачыся з цыбатым і доўганосым Буслам, які, праўда, і вухам ня вёў на ўсю гэтую плявузготу сярдзітай суседкі, а любоўна цешыўся са сваіх дзетак, што таксама сядзелі ў гнязьдзе на тым жа дубе. Дзесь у небе жалобна пішчэў галодны каршун, і зыкі яго далёка расплываліся ў нярухомай цішы летняй раніцы.

У ветра, відаць, было нейкае сьвята ў гэту раніцу, або добра нагуляўся ён дзе за ўчарашні дзень, бо яшчэ не варушыўся і спаў, хоць сонейка падбіралася пад поўдзень.

І гарачая была гэта раніца! Грэчка, каторая зачынала ўжо зацьвітаць, і даўно асыпаная бульба проста млелі ад гарачыні і ў зьнемажэньні тужліва паапускалі сваё лісьце. І лісточкі іх таксама пачыналі жаўцець. Маленькі, беленькі камячок, якім сьпярша была гэтая Хмарка, пачынаў тымчасам павялічвацца, шырыцца і рабіцца болей грузкім.

Добра было гэтай Хмарцы плыць высока-высока ў безгранічных разлогах сьвятоў і акідаць поглядам прыгожыя малюнкі зямлі, што ляжала пад ёю.

З тэй страшэннай высачыні, на якой плыла Хмарка, усё выглядала вельмі хораша, вельмі прыгожа: здалёку ўсё зьяўляецца нам іначай, як яно ёсьць папраўдзе, бо такая ўжо натура і схільнасьць нашай душы—бачыць усё добрае і прыгожае ў тым, што далёка ад нас, што ня з намі. І паплыла паволі шчасьлівая Хмарка ў далёкую-далёкую дарогу, дзе застанаўляючыся, як прыемная думка, дзе кіруючыся на малюнкі, што найбольш зацікаўлялі яе; а поле з пясчанымі скатамі сваіх узгоркаў, зялёныя лугі з пакручастымі стужкамі бліскучай вады, адвечныя лясы-бары,—адным словам, усе тыя зьявы, якія першымі кінуліся ў вочы новароджанай Хмарцы, аставаліся ўсё далей і далей, і сама гэта даль акрывалася ў намітку сіняватай смугі-жаласьці. Уласнае шчасьце бязроднай Хмаркі (яна не памятала роду) не давала ёй можнасьці прымеціць чужое гора. Ёй здавалася, што ўсе на сьвеце, як і сама яна, радуюцца і цешацца сваёй доляй. Па гэтай прычыне Хмарка ня ведала, якую тугу і жаласьць пакідае яна за сабою на зямлі, з якой прагавітасьцю чакала поле задаволеньня свае смагі. Унь там, за вёскаю, чуць-чуць калышыцца ў межах пажоўклае жыта. Гэта вецер, толькі што абудзіўшыся, пачынае пазіхаць, пацягацца. Бедныя каласкі пільна прыглядаюцца да Хмаркі. Калі-ні-калі іх ажыўляе надзея ўздужаць з ласкі шчодрай Хмаркі. Але Хмарка ідзе далей, толькі цянёк ад яе праплыве, як здань якая, па жыце, і яно нікне каласкамі, стаіць, нікому ня скардзіцца, як-бы самлеўшы. І сумна рабілася ўсюды, і нейкая крыўда і жаласьць бруіліся над усім, што пакідала Хмарка. Два прыўдалыя конікі ператалі сьпяваць і пахаваліся пад лісток лотаці. Гэта яны сьпявалі песьню ў чэсьць Хмаркі, а яна так зьняважыла іх.

Пташкі таксама змоўклі, а маленькі ручаёк, здавалася, панёс свой жаль у зямлю пад каменьні, у цень альховых кустоў.

А Хмарка, шчасьлівая, радасная, ясная, як майская раніца, усё йшла, ішла далей і далей да невядомых краёў сьвету, і толькі ёй рабілася крыху сумна, ёй шкода было пакідаць тыя малюнкі, да якіх ужо прывыкла, але жывая натура гнала яе і гнала, не даючы супачынку.

Так ішла яна ўвесь дзень. Пад вечар, як сонейка схілілася блізка да заходу, Хмарка зашла ў такі край, які непадобен быў да тых краёў, адкуль яна выбралася ў дарогу.

Перад ёю пачаліся высокія горы, вярхі якіх пакрывалі адвечныя сьнягі. Сонейка пачало хавацца за край зямлі, апошнія стрэлы яго лучоў ахварбавалі яе ў агнявісты колер і патухлі. Востры холад пустых і жудасных верхавін дзікіх гор моцна сьціснуў Хмарку. Яна скорчылася ўся, зрабілася маленькай і тонкай, знашла зацішак між гор і спынілася прыхіліўшыся да старой Скалы. Страшна стала Хмарцы.

— Адкуль прыпаўзла, нябога?—спытала Скала Хмарку.

Яшчэ большы страх агарнуў яе.

— Ня ведаю,—боязна адказала яна.

— Што робіш, чым займаешся?

Хмарка зрабілася яшчэ меншай і маўчала.

— Я люблю паслухаць, што робіцца на сьвеце,—апраўдывала Скала сваё пытаньне:—што-ж ты бачыла, раскажы мне.

Хмарка крыху асьмелілася і пачала расказваць, як хораша на зямлі, як усе там шчасьлівы і радасны, як сьпяваюць мошкі, конікі, травы, збажына.

— Хто сам шчасьлівы, таму здаецца, што і ўсе шчасьлівы,—сказаў Арол на гутарку Хмаркі.—Быў і я ў тых краёх, адкуль прыблуталася імасьць. Там, гаворыш,—шчасьце? А што-ж, патвоему, няшчасьце? Там палі выплакалі апошнія сьлёзы, каб даць табе жыцьцё, шчасьлівая Хмарка! І цяпер там нават расы ня бывае ніколі. Але не для таго назначаліся сьлёзы, каб радзіць цябе на сьвет для бадзяньня па чужых краёх... І доўга яшчэ гаманіў Арол, наракаў на Хмарку.

Слухала Хмарка нараканьні Арла і прыкра зрабілася ёй. Прашла ноч, зачаўся новы дзень, зноў пашла ў дарогу Хмарка. Цяпер яна ўжо ня чула сябе шчасьлівай і вольнай, як наўперад: так глыбока запалі ёй арліныя словы.

Дні йшлі, праходзілі нядзелі, а яна, як заклятая, усё хадзіла па сьвеце. І дзе толькі ня была яна? Якога гора ня прышлося зажыць ёй у дарозе! Насілася яна над пустэлямі, перад ёю расьцілаліся моры, якія ня мелі берагоў. Ганялі яе вятры, рвалі на кусочкі яе тонкія валаконцы. І нідзе на сьвеце ня было ёй супакою. І вярнулася яна зноў у той край, адкуль

і вышла. Пажоўклыя палі, сухія травы, пагарэлая збажынка гаротна віталі Хмарку; пацямнела яна, зажурылася, паапускала пасмы Хмарка і заплакала халоднымі сьлязьмі над роднымі палямі...

Стары Дуб, абмыўшыся дажджом, павесялеў, як-бы чарку выпіў, і сказаў да Бусла, з якім даўно ўжо быў у дружбе:

— От навука для тваіх дзяцей. Моцна-ж накажы ты ім, дружа, каб ня лёталі дарэмна па сьвеце, не бадзяліся: у сваім родным кутку работы досыць для кожнага.

Бусел маўчаў. Відаць, ён іначай пазіраў на гэту зьяву, а можа і не дачуў слоў свайго сябра.

1913 г.

## АСІНАЕ ГНЯЗДО

Даўно ўжо асталяваліся тут восы. Ні для кога гэта ня было-б ні дзівам, ні клопатам вялікім: ну, жывуць—няхай сабе здаровыя жывуць. Чым, напрыклад, аса горш ад авадня або сьляпня? І то брыда, і то брыда. Але калі прырода пусьціла іх на сьвет, то можа яна мела на гэта свой погляд.

Ня мы будзем папраўляць тое, чаго не дарабіла або перарабіла натура. Кепска было толькі адно—восы залішне высока несьлі сябе і ўсім у вочы казалі, што восы—гаспадары над усімі мошкамі на сьвеце, і крыху прыціскалі другую машкару. Карысным дзелам, як, напрыклад, зьбіраць пакрышанчыку мёд, ім не хацелася, яны часта залятали ў вульлі, паквапныя на дарэмшчынку, і кралі або разбоем забіралі гатовае.

Праўда, не заўсёды ўдавалася ім гэта зладзейская работа, але клопату рабілі даволі працавітым і спакойным пчолкам. А іншы раз пчолкі прытвараліся, што нічога ня бачаць, каб толькі не рабіць калатні, і дазвалялі ім жыць у тых закутках, дзе жылі і самі.

Другая людзкая мошка сказала-б за гэта дзякуй, а восы пазіралі на гэта йначай, бо былі надта хванабэрыстыя.

— Э,—казаў ім самы глаўны:—будзьце сьмелымі: бачыце, як усе дагаджаюць нам.

Але каб быць сьмелым, то для гэтага трэба быць дужым, а каб быць дужым, то трэба мець цьвёрды грунт пад нагамі і ясна пачуваць і ведаць, дзеля чаго ты жывеш на сьвеце. Чаго мы жывем? Жывем, каб панаваць. А каб магчымець панаваць, то трэба другіх заправіць служыць сабе. Дык дзе-ж наш грунт? У чым наша сіла?

Восы маўчалі.

Я пэвен у тым, што некаторыя з іх ведалі адказ на гэта пытаньне,—прынамсі, такі, які вымагаў асіны цар, але маўчалі:

яны хацелі паказаць, што іх самы глаўны і ёсьць самы разумны. Колькі часу маўчаў і самы глаўны.

Праканаўшыся, што ніхто з яго залежных ня сьцяміць адказаць, асіны цар павярнуўся да сваіх залежных задам, паставіў у гару вусы, вынуў джала і сказаў:

— Во ў чым наша сіла!

Усё асінае гняздо так і загуло ад радасьці.

І пачалі восы гадаваць свае джалы. Пашла трывога па ўсім царстве ўсялякіх кузурак: нядобрае, відаць, задумляюць гэтыя разбойнікі-восы.

На каго-ж яны першыя накінуцца? На каго рыхтуюць свае джалы?

Пчолы думалі, што на іх. Пакідалі і яны зьбіраць мёд, давай таксама вастрыць джалы. Няма чаго есьці зімою, прыходзіцца, часамі, з голаду пухнуць.

Чмель, той самы спакойны і развважны чмель, што так хораша зьвінеў вясною над краскамі, пастанавіў:

— На нас, чмялёў, точаць свае зубы чортавыя восы. Дык хвароба-ж вам і скула ў бакі!

Давай і чмялі глыбей рыцца ў зямлі, таўшчэй высьцілацца мохам.

— Будзе бура, біцца будзем,—гуў цяпер сярдзіта чмель. Мухі лёталі, як шалёныя, ня ведаючы, за што ўляпіцца, і давай бяз толку грызьці жывёлу і чалавека. Нават камар і той зьбіраў сілы, ня ведаючы сам навошта.

Цяжка стала мошкам. Восы, бачачы ўсё гэта, яшчэ больш захванабэрыліся.

Каб крапчэй чуць пад нагамі грунт, схаўрусаваліся яны з шэршнямі. Яшчэ большая трывога пашла між машкары: шаршэнь—гэта ня жарты. Перш-на-перш веліч яго кідалася ўсім у вочы—амаль не з вераб'я ростам. Сам такі рыжы—жывот ды галава. Праўда, шчэплены яны вельмі тандэтна: варта было толькі крэпка стукнуць у гэтага ідала, каб галава і жывот параскідаліся кожнае па сабе. Цяжка стала жыць мошкам.

Толькі і гутаркі было ў іх, што аб восах, аб іх хаўрусе з шэршнямі.

Да гэтай гутаркі сталі прылучацца чуткі аб тым, што восы пачалі накідацца і кусаць другіх мошак.

А шэршні ўляцелі ў дупло асіны і выгналі адтуль камароў і мыцак, і самі сталі там жыць.

— Не,—гаварыў камар:—далей так жыць няможна... Што з таго, што ў мяне доўгі нос, якім я пракусваю скуру людзям і жывёле, калі ім і карыстаць нельга, бо за восамі сьвету няма?

Аж заплакаў, бедны.

— У нас у вульлі вятры веюць, а зьбіраць мёд баімося,— жаліліся пчолкі.

— Між гэтых лясоў лётаць небясьпечна,—гаварылі тысячы другіх мошак.

А восы і шэршні важна гулі ў жэрале старасьвецкага дубу, што рос над крыніцай. Старому дубу за доўгія часы абрыд усякі шум,—старому хацелася крыху адпачыць ужо, а тут навязаліся гэтыя дармаеды.

Учуў стары дуб гутаркі мошак, скалыхнуўся магутнымі сукамі, усьміхнуўся і сказаў:

— Чым так жыць, то лепш памерці вам!

— А што рабіць?

— Што рабіць? А навошта вам вашы джалы?

— Так, так, так!—загулі мошкі:—скарыстаем нашы джалы!

Стары дуб радасна ўсьміхнуўся.—Згінуць восы і шэршні, спакайней будзе на сьвеце.

1915 г.

## БАЛОТНЫ АГОНЬ

Гэтая бярозка толькі нядаўна асталявалася тут. Кароткае жыцьцё выдарылася ёй, і незавідная доля гадавала яе. Закрытая, заціснутая з усіх бакоў старымі дзеравякамі, ня бачыла яна сонца, рэдка калі падыхаў на яе сьвежы ветрык. А як яна ня бачыла іншага сьвету і другога жыцьця, то і не наракала ніколі на сваё сірочае жыцьцё. Яна смутна пачувала волю, прастор, сонца і, стоячы тут, сярод гэтых дрэў, як чужаніца, ні з кім не гаварыла пра свае думкі і лятункі.

Адна толькі ўцеха падтрымлівала яе жыцьцё. Уночы, як заціхалі вокал птушкі і пераставалі гудзець і зьвінець мошкі і толькі адны зоркі сьвяціліся ў небе ды часамі месяц сумным вокам азіраў зямлю,—гарэў дзесь агонь, бляды, неразгаданы і прыемны. І блішчэў той агонь з-пад нізу, з нейкіх нявядомых абшараў зямлі.

Балота, на якім прыгожа раскінуўся той астравок, дзе расла разам з другімі дрэвамі і гэтая маладая бярэзінка, здавалася, ня мела канца-краю; найстарэйшы тут дуб, стоячы на самым высокім месцы востраву, ня бачыў канца гэтага балота. Спрадвеку гадаваліся на гэтым астраўку розныя дрэвы. Па краёх цягнуліся маладыя і старыя алешыны, пусьціўшы карэньні глыбока на балоце. Далей цягся цёмназялёны пояс елак. Яшчэ крыху вышэй бялелі стройныя камлі прыгожых бярэзін, сярод каторых пракідаліся ліпа, граб, ясень, вяз; і ўжо на самай сярэдзіне астраўка стаялі магутныя дубы.

Наша маладая бярэзінка расла па суседзтву з вязам. Была поўноч перад Ільлёю. Неба было цёмнае, усё закрытае хмарамі, і дрыгацела час-ад-часу, асьвяціўшыся бліскавіцамі ад далёкага магутнага грому. На балоце прыветна мігацеўся той самы агонь. Маладая бярозка радасна дрыжэла, гледзячы

на гэты агонь. Абуджаны раскацістым гулам грому вяз папытаўся ў бярозкі:

— Чаму ты ня сьпіш, дзетка!

Бярэзінка здрыганулася зьнячэўку і прыкінулася, што нічога ня чуе і сьпіць.

— Чаго-ж саромяешся?—прыветна прамовіў вяз:—ох, блазнота! Ты ўглядаешся на балота, цябе цягне агонь?

Вяз памаўчаў, а потым, махнуўшы галінкаю, сказаў:

— Гэта не агонь.

Маладая бярэзінка аж задрыжэла ўся ад гэтых слоў.

— Як? гэта не агонь? Гэта не праўдзівы агонь?—тужліва спытала яна і пачула, што перад ёю як-бы адчынілася нейкая бяздонная пустэля.

— Гэта гнілякі на балоце так сьвецяцца,—зноў прамовіў вяз.—Плюнь на іх: у дзерава павінна быць дзьве дарогі— адна ў зямлю, другая ў гару да сонца.

І доўга яшчэ гаварыў так вяз.

А бярэзінка маўчала і ня чула, аб чым гаварыў вяз. „Дык гэта быў зман! А я думала, што гэта—сапраўдны агонь, і ў гэтым была мая радасьць і ўцеха, у гэтым забывала я аб сваёй нядолі“.

І стала нудзіцца і тужыць бедная бярозка. Цяпер ніякай радасьці ня было ў яе жыцьці.

А як гэты выпадак стаў вядомы паміж дрэў, то яны доўга шумелі і ніяк не маглі прыйсьці да згоды:

Ці добра зрабіў вяз, разьвеяўшы гэты туман, гэты прыгожы туман зманнага шчасьця беднай бярэзінкі.

І да гэтага часу вядуць дрэвы спрэчку.

1913 г.

## ПРОЦІЎ ВАДЫ

Ніхто не запамятае, калі асталяваўся тут Стары Дзед. Дзед назіраў за парадкамі ў лесе, вартаваў луг і поле, быў поўным гаспадаром над усім, што было тут, і без яго ведама не адбывалася жадная справа. Лес рос толькі там, дзе паказваў Дзед, а калі якое дрэва і кідала сваё насеньне ў аблюбаваны грунт, Стары Дзед гневаўся й не даваў яму ходу... Можа тое, што рабіў Дзед, было і добра—спрачацца ня буду, тым болей, што ў Дзеда парадак быў.

Дзед толькі таго і глядзеў, каб парадкі былі. За парадкамі ён і сьвету ня бачыў.

Другое пытаньне, ці рады й задаволены былі тыя, каго апякаў і над кім панаваў Дзед.

Было тут Азярко,—чым яму кепска? Сама ўжо прырода адарыла яго хараством, і ў сьветлыя яго воды любіла зазіраць сонца; прыгожыя, белыя хмаркі адбіваліся ў ім, як у люстэрку: у ім купаў свае праменьні задуменны месяц, і ціхія зоркі пераліваліся тут дзіўнымі агнямі розных колераў. Вакруг Азярка красаваліся пышныя кусты лоз і ракіты, зялёным валам цягнуліся па беразе стройныя алешыны. А самае Азярко Дзед убіраў прыгожаю вадзяною лотацьцю, засеяў пахучым аерам і разьвёў цэлыя нівы чаротаў. Дык ня дзіва, што Дзеду было крыўдна слухаць нараканьне гэтага Азярка. Але гэтага яшчэ мала: дачуўся Стары, як тлумачыла Азярко Дзедаў клопат па часьці ўбраньня яго. Вот і чакай ты падзякі: Азярко казала, што лозы й алешнік пасеяны Дзедам дзеля таго, каб ня даць волі вадзе, каб умацаваць бераг і гэтым самым трымаць на прывязі ваду. Лозы і алешнік—гэта Дзедавы служкі.

А вадзяная лотаць? а чароты, аеры?

— Лепей зусім-бы іх ня было,—казала Азярко:—гэтыя расьліны й краскі—магільныя крыжы для вады.

Хацелася Азярку выліцца з балотных берагоў сваіх, пайсьці другім месцам і крыху асьвяжыцца. Гэтае жаданьне і прагненьне волі павялічылася ў ім у значнай меры пасьля таго, калі сюды пачалі прабівацца крынічкі жывой вады. Яны расказвалі, дзе ім прышлося пабыць і якую карысную зрабіць на сьвеце работу. Азярко чула тут сьвятую праўду, і яшчэ большае нездаваленьне падымалася ў ім проціў Дзеда.

— Пане гаспадару!—казала раз Азярко Дзеду:—даволі я пабыло тут. Вада—такая рэч, што ня можа доўга стаяць на адным месцы: спакой—вадзе гібель. Сам ты бачыш, што на дно маё падае бруд, а ў гэтым брудзе завялося балотнае зельле...

— Мілае маё!—сказаў Дзед:—ты-ж тут не адно, а я павінен падумаць аб кожным з вас, і я ведаю, што дзеля поўнага парадку павінна быць чыя-небудзь адна воля; а калі кожны тут пачне жыць сваёю галавою, дык што тут будзе?

— Твая праўда, гаспадару, павінна быць чыя-небудзь адна воля, дык няхай гэта будзе адна супольная воля—воля нашага згуртаваньня.

— Так, так!—падхапілі лес, луг і поле.

З гэтага часу й пашла спорка—усе проціў Дзеда.

— Ах, вы, свавольнікі, свавольнікі!—узлаваўся Дзед:—я ваш гаспадар, і будзе так, як хачу я.

Прашло яшчэ колькі часу.

Дзед рабіў тамаваньне, узмацняў берагі Азярка.

Але надышла навальніца і паддала Азярку сілы, і ўсе Дзедавы скрэпы былі зьнесены, і яго самога панесла вада.

Зьбеглі з неба хмары з сваімі пярунамі, ізноў глядзела сонца на зямлю, ласкала пакрыўджаных навальніцаю. Пазіраючы, як куляўся стары Дзед у грозных перавалах Азярка, яно сказала:

— Дурны, дурны Дзед: ня воля аднаго, а воля ўсіх толькі й можа мець сілу і права.

1917 г.

## СТАРЫ ЛЕС

Гэта быў старасьвецкі лес. І былі ў гэтым лесе такія пушчы і нетры, аб якіх ня ведаў ніхто на сьвеце. Поўны месячык раз у чатыры квадры ўсплываў на сярэдзіну неба і адтуль рыхтаваўся пацікавіць, што дзеецца пад паветкаю густога вецьця. Але яму лягчэй было-б разглядзець, што робіцца пад страхою ў хаце чалавека, чым прабіцца праз галіны адвечных гушчароў. І сумаваў тады круглы блішчасты месячык і хаваў свой твар у сьветлых хмарках. Само яснае сонейка ледзьве-ледзьве прапускала залатыя косы і то толькі да палавіны, а на самым нізе заўсёды панаваў цянёк і прохладзь. Зьвяры й пташкі ня мелі адвагі забірацца ў самыя нетры лесу. Там жыла адна тая Таёмнасьць, што запаўняла нетры лесу страхам і нікому невядомымі дзеямі.

Скрозь гушчары, пад павецьцем зялёных голек, прабівалася бліскучая стужка халоднай вады і дзяліла пушчу на дзьве часткі. Абодва берагі гэтай рэчкі былі густа заросшы старымі дрэвамі, яны кідалі сваё гальлё над рэчкаю і лучыліся адны з другімі. І лес па адзін бок рэчкі, і лес па другі яе бок, такім парадкам, быў адным лесам, і тое, што рабілася на адным беразе рэчкі, было таксама справаю лесу другога берагу,— адным словам, у лесе быў адзін супольны інтарэс, адно жыцьцё.

Рэчка гэта была невялiка: у лесе яна пачыналася, у лесе й канчалася,—канчалася пышным і прыгожым возерам; вакруг возера, як вежы, стаялі мудрыя дрэвы-дубы. У тым ланцугу вельмі важных прычын і зьяў, праз якія выніклі яшчэ важнейшыя дзеі ў гэтай пушчы, рэчка займала не апошняе месца, хоць справядлівасьць вымагае сказаць, што рэчка й ня думала займаць такога месца. І яшчэ трэба дадаць, што першыя мес-

цы бываюць дваякія: на адны мы самі рымсьцімся, а на другія нас цягнуць, узяўшы за вушы.

На гэта апошняе месца ўсьцягнулі і рэчку.

Але сіла ня ў гэтым.

На сьвеце часта бывае так, што самая простая справа, самая ясная праўда пазнаецца цаной вялікай пакуты—надта цяжкая дарога праводзіць да іх спазнаньня.

Доўгія-доўгія годы, цэлыя вякі, жыла пушча згодна й шчасьліва, жыла поўным, багатым жыцьцём.

Але ўсяму на сьвеце ёсьць канец.

На падгорку, недалёка ад рачулкі, стаялі купчастыя ліпы, сярод іх прыкідаліся ярка-зялёныя клёны і высокія вязы. Летам на іх высьпявала насеньне.

Пад восень, прылятаючы сюды, вецер падхватваў яго на свае вольныя крыльлі і разносіў па сьвеце. Закінуў раз вецер насеньне старой, усімі паважанай ліпы, на другі бок рэчкі; прынёс і кінуў на мяккі зялёны мох па суседзтву з асінай. Асіна замеціла месьцечка, дзе ўпала ліпавае семя, і сумыслу скінула на яго даволі таўсты сухі свой сук. Сук якраз упаў на насеньне і крэпка яго прычавіў. А назаўтра радам з насеньнем ліпы асіна скінула сваё семячка. Покі ліпавае насеньне выраблялася з-пад асінавага сука, асіна ўзышла і заглушыла ліпку. Уся гэта справа рабілася на вачох дзятла, каторы дзёўб тут ссохнуўшы верх старой хвоі. Дзяцел пераляцеў рэчку, сеў на старую, усімі паважаную ліпу, і расказаў ёй усё, што было з яе насеньнем.

— Гэта ўжо ня першы раз робіцца так на тым баку рэчкі,—пацьвярдзіў высокі вяз, пакланіўшыся ліпе.

— Чорт ведае што!—ускіпеў крэпкі граб:—зусім не падзеравяцку! Ці ня ўсё роўна лес? Насеньні з таго берагу пералятаюць сюды і растуць сярод нас. Унь, гляньце: там стаіць бярэзінка, клёны, арэшнік—усё гэта націскалася сюды з-за рэчкі!

І глуха зашумела пушча зялёнымі макушкамі. Шум перакінуўся за рэчку, у другую частку лесу. Злосна зашумеў лес па другі бок рэчкі.

— Нам самым няма тут месца! — бушавала старая асіна, высока ўзьняўшы круглы верх: — а яны яшчэ сваё племя сюды перапраўляюць.

— Што казаць!—уторыла вербалозіна.

— Гані іх адгэтуль!—зашумеў ясень:—там столькі прастору, а ім яшчэ мала. Дзе-ж самі мы падзенемся?

Доўга шумеў стары лес, падзяліўшыся на дзьве часьці, доўга гаманілі дрэвы, і вялікае нездаваленьне і гнеў чуліся ў гэтым гомане.

Каля самых берагоў рэчкі, з аднаго і другога боку, стаялі чарадамі алешыны, на прадвесьні, як яшчэ ў лесе ляжаў таўсты пласт сьнегу, а рэчка была пад лёдам, кідалі алешыны свае цёмныя зерняткі на лёд, каб вясною рэчка разам з лёдам панясла іх зерняткі і засеяла імі свае берагі на краю лесу, дзе было многа прастору і волі. Разложыстая, высокая алешына не адзін раз бачыла, як другая алешына з другога берагу кідала сваё насеньне проста ёй пад ногі і сваімі зерняткамі закрывала яе дзетак.

— Ці ў цябе няма свайго месца, што засыпаеш маё насеньне?—са злосьцю спытала першая алешына.

— А чыё гэта племя ўтрамбавала наш бераг? Чыё? Сама-б увесь сьвет заняла, а другому і лапінкі шкода, пагібелі на вас няма! —І пашлі вярнуць, і пашлі вярнуць адна на другую. У іх лаянку ваткнулі языкі і другія жыхары лесу, і такая пашла спорка, што птушкі пазьляталі са сваіх месцаў, і зьвяры павыскаквалі з лаговішчаў. Падняўся такі кірмаш, такі гармідар, што ня дай ты божа! За доўгія вякі згоднага жыцьця патрошкі, патрошкі назьбіралася столькі ненавісьці, столькі гневу, крыўды, зайздрасьці, зьневажаньня, што лес грымеў, хадзіў, як кіпень у гаршку, тросься, калаціўся, дрыжэў ад злосьці.

Да голасу лесу прылучаўся піск, гвалт птушак, выцьцё зьвяроў. Зьвяры і птушкі таксама ўзялі руку сваіх берагоў.

Ад гэтага шуму, гвалту, ляманту затраслося паветра, закурыўся пухам сьнег, пушча раскатурхалася, разгайдалася, расшумелася, як сялянскі сход, і ўжо ніякая сіла не магла супакоіць магутную пушчу.

І страшная бура завыла над цёмнаю пушчай. Заскрыпелі, застагналі таўшчэразныя гладкакамлёвыя хвоі, зьліваючыся ў жудасны роў.

Густа й жалобна зашумелі кашлатыя яліны, неміласэрна б'ючыся лахматымі лапамі; завылі асіны, ліпы, бярозы, клёны

й вербы; загулі магутныя дубы, і громам грымелі іх чорныя жэралы; зарыгацелі сукастыя вязы і грабы... Усе дрэвы бушавалі сваімі галасамі, а ў агуле вышла такая страшэнная музыка, што здавалася, бы злыя духі пазрываліся з ланцугоў і спраўлялі сваё ігрышча.

І вось, сярод гэтага гулу пачуўся трэск—ня стрымаліся крохкія асіны і пасыпаліся, як соль; за імі, як каноплі, разам з карэньнямі і з грудамі мёрзлай зямлі, западалі яліны, а падаючы, цягнулі за сабою і слабейшыя дрэвы, яны гнуліся, шчапаліся, крышыліся, і толькі камлі іх, як сьвечкі, тырчалі высока ў паветры, сярод выварата і зломаных верхавін, што ўжо трупамі ляжалі ў сьнягу. А пушча не сунімалася, стагнала, гула, бушавала, плакала злосным плачам, выла гневам і ненавісьцю. Вот шчапіліся два адвечныя асілкі: магутны прысадзісты, гузаваты зьвязісты дуб з таўшчэразным і высочазным вязам. Доўгія годы стаялі яны на розных берагох няшырокай рэчкі, як добрыя суседзі, і крэпкая дружба, узгадаваная доўгімі гадамі, была заўсёды паміж імі. І яны цяпер сьмяртэльныя ворагі! Страшна было глядзець на гэтых асілкаў. Іх крэпкія таўстыя сукі размахваліся, білі адны аб другіх, ламаліся. Размахнуўся таўсты, высокі вяз і са ўсёй сілы грукнуўся аб дуб.

Упёрся моцна прысадзісты дуб і ўсім крэпкім целам сваім рынуўся насустрэч вязу—і пышны верх старога вязу з громам абламаўся, на момант зьвіс, затрымаўся ў крэпкіх дубовых сукох і ціха спусьціўся на халодны лёд рэчкі і цяжкасьцю сваёю ўвагнуў яго, праламаў. Клубок жывой вады вырваўся на волю—заплакала рэчка над трупам старога вязу.

— Помста за сьмерць нашага бацькі-вязу!—зашумеў той бераг рэчкі. Грозна паціснулі дрэвы на стары дуб.

— Гэй, сюды!—гукнуў другі бераг рэчкі:—не дамо ў крыўду нашага абаронцы!

Замятушыўся лес, і два грозныя вагіры, дзьве сьцяны дрэў рынуліся адна на другую. Падняўся віхор. Дрэвы зьвіліся ў адзін клубок, скруціліся, зьвярцеліся і пасыпаліся на зямлю. Глуха застагнала зямля, задрыжэлі ўзгоркі, і лёд патрэскаўся на возеры і ў рэчцы...

Цэлы дзень і ночь білася пушча, і месца пабоішча выяўляла сабой грозную і жудасную зьяву разбурэньня й сьмерці.

Прышла вясна, растаяў сьнег, павеяла цяплом, і зноў пачало абуджацца жыцьцё. Толькі гэта пушча выглядала цяпер яшчэ нудней. Усюды ляжалі камлі, верхавіны, вывараты, тырчалі высокія пні паломанага лесу, і толькі дзе-ні-дзе, на пагорках, засталіся рэдзенькія купкі дубоў, невялічкія кудзёркі старых хвояў. Прыляталі з выраю птушкі і не знаходзілі сваіх становішчаў.

І плакалі сіроты-дрэвы, стоячы над трупамі сваіх родных, сваякоў і знаёмых. А яснае сонейка грэла так прыветна й цёпла.

— І на што была нам гэтая трасяніна?—казала рэшта пушчы:—ці нам не хапіла-б месца пад ясным сонейкам? Дзе наша сіла? Дзе краса наша?

— Каб ня гэта рэчка, каб яна не падзяліла нас на дзьве часткі, то гэтага ня здарылася-б,—казалі хвоі.

— Праўда, праўда,—падхапіла ліпа:—з-за яе зьнішчылася пушча.

— Ну, і ўцешцеся, калі знашлі вінаватага!—адказала сярдзітая сойка.

1917 г.

## ДАЛЬ

Зацьвіла прыгожая ліпа.

Колькі шуму было тут на гэты час, колькі рознагалосага сьпеву! Працавітыя пчолкі, усялякія мушкі так, бывала, разгудуцца, што ліпа тагды выяўляла сабою нейкі дзіўны музыкальны струмэнт, і здавалася, што тут адбывалася ігрышча. Але адцьвіла ліпа, пачало сьпець яе насеньне. Расло адно зернятка на самай высокай галінцы. Можа гэта высачыня і была прычына таго, што маладому насеньню захацелася кінуць тутэйшы грунт і перабрацца туды. І якое павінна быць шчасьце жыць там, калі ад аднаго толькі погляду на прывольле гэтай далі рабілася сьветла і радасна на душы.

Бывала, чуць толькі ўзыйдзе сонца, чуць расьцелюцца на версе лясоў і ўзгоркаў яго залатыя абрусы, як гэта зерня ўжо не звадзіла ачэй ад сіняй далі. Што было ў ёй такога, чым паманіла яна, гэта даль, маладое жыцьцё ліпавага дзіцяці?.. У тую старонку, адкуль з найлепшага боку выглядала гэтая даль, беглі разлогі шырокіх палёў, а на іх межах то там, то сям параскідаліся, як маладзіцы ў жніво, дзікія ігрушы; ціхія ўзгоркі адны за другімі, бы хвалі рачныя, таксама, відаць, цягнуліся да тэй няяснай і прыгожай далі. А там, дзе поле ўпіралася ў цёмную сьцяну баравога лесу, на самай граніцы, зьзяла, як люстэрка, пакручастая стужка вады. А там, яшчэ далей, куды беглі і срэбраныя загібы бліскучай рэчкі і памыкаліся ўзгоркі, баравы лес і шырокае поле, ужо ня можна было разглядзець нічога ў асобнасьці, была проста даль, каторая так моцна парывае да сябе душу,—даль, над каторай драмалі ў залатых марах, здавалася, нярухомыя клубочкі кучавых хмарак.

Ёсьць нейкае хараство ў гэтай няяснасьці, у гэтай безгранічнай далячыні, дзе неба нізка-нізка нахіляецца над зямлёю. Якая ўлада, якая сіла цягне ў гэту безгранічнасьць сіняй далі!

— Эх,—уздыхала маладое зерня:—паляцець-бы ў гэтую даль.

Пачуў вецер тыя ўздохі, устаў з-за ўзгорку, пазіхнуў пасьдя салодкага супачынку і падляцеў да маладога насеньня.

— А я й ведаў,—сказаў ён насеньню,—што не сягоньня-заўтра, а папросішся ты ў дарогу. Трэба, трэба пазнаваць сьвет!

І стала прсіцца маладое насеньне ў ветра ўзяць яго з сабою і панясьці ў аблюбаваную даль.

Старой ліпе шкода было пускаць сваё дзіця ў чужы сьвет, невядома куды, але што парадзіць? Можа там будзе і лепей яму? Дык што станавіцца папярок дарогі? Мо‘ гэта дарога—дарога яго шчасьця? Благаславіла маці ў дарогу сваё дзіця.

— Ляці, мілае!

Падхапіў вецер маладое насеньне і панёс. І лятуць яны, і, здавалася, самі беглі на спатканьне ім прыгожыя ўзгоркі, зялёныя лагчынкі. Пазірае на ўсё маладое насеньне і вачом сваім ня верыць: няўжо гэта тыя самыя малюнкі, на каторыя глядзела яно так нядаўна? А дзе-ж іх хараство? Дзе тыя гладкія абрысы, дзе грабяні, што так павабна выглядалі адтуль—з ліпы? А палоскі лясоў? Нават сама рэчка не такая, якой здавалася яна здалёк. І нейкі неспакой пачынаў пашыбаць маладое насеньне.

Ой, ці не жартуе з ім вецер: ці туды нясе ён, куды прасілася душа?

— А ці скора будзе тая даль, мілы вецер?

— Мы даўно мінулі яе,—адказаў вецер,—а цяпер новая даль перад намі.

1917 г. Перм.

## ШТО ЛЕПЕЙ?

На зялёным грудку, дзе рос шорсткі сівец, стаяла Хвоя. Хіба толькі той не любаваўся ёю, хто пазіраў больш уніз, як угору. Адметнасьць яе ад хвояў, што гадаваліся ў лесе, кідалася адразу кожнаму ў вочы. У лесе трэба было цягнуцца аднэй перад другою: там расьлі зграбныя дубкі і паважныя грабы. Дык трэба было зьвяртаць увагу на сваё хараство, на сваю постаць і прынадзіць да сябе лесавых дзяцюкоў, каб павярнуць іх сэрца ў свой бок. А каму прыемна ўпусьціць прыгожага хлопца-малойца! Толькі хвоя-ядначка не ўганялася за кавалерамі—можа дзеля таго, што іх тут і ня было, бо лес стаяў на вотшыбі. У яе было сваё жыцьцё, свой інтэрас. Толькі-ж пастаянная адзінота налажыла на яе сьлед сумнай задумы і, стоячы тут, прыгожая Хвоя заўсёды нудзілася. Аб чым? Трудна сказаць. І толькі зрэдка, бывала раніцамі, на ўсходзе сонейка, ад яе патыхала ціхім прыветам і радасьцю; тады прасьвятляліся яе нізка апушчаныя галіны, каторыя, звычайна, дадавалі сум прыгожай Хваіне.

Хто ведае: можа гэты сум, гэта туга—адвечныя падарожнікі тых, хто многа разважае, хто жыве адзін з сабой; а можа й праўда—такое ўжо наша жыцьцё, што не дае здаваленьня. Ня раз жалілася наша Хвоя жаваранцы на сваю адзіноту, на сваё непатрэбнае тут жыцьцё. Ну, каму з яе карысьць?

— Ведаеш, мілая жаваранка: лепш ня жыць зусім, чым мець такое жыцьцё!

Жаваранцы шкода было Хвоі, і яна сьпявала ёй такія мілыя песьні!

Толькі вецер пасьмейваўся з гэтай гутаркі і ня верыў таму, што казала Хвоя. Але з чаго і з каго ня кпіць вецер? І верыць яму таксама ня варта. Прыляцеў раз Каршун і сеў на гэтай Хвоі,—на ёй была такая галіна, як-бы сумысьля дзеля гасьцей яна вырасла.

— Гм!—казаў Каршун:—а агонь усё ня гасьне. Калі пойдзе так і далей, то і лес увесь загарыць.

— Пра які агонь кажаш ты, Каршун?—спытала Хвоя.

— Пра той, што паліць,—адказаў сярдзіта Каршун.

— А які агонь ня паліць?

— Той, што не пячэ.

— А хіба ёсьць такі агонь?

Адным словам, відаць было, што Каршун растрывожаны і да гаворкі ня меў ахвоты.

Можа-б яно й лепей было, каб Каршун нічога не казаў,—лепей бяз страху й трывогі; а ўміраць усё роўна калі-небудзь а трэба: недалёка гарэў торп!

У першую хвіліну Хвоя нічога ня цяміла: была якбы аглушана гэтай весткаю. Вецер кожную раніцу разносіў ва ўсе бакі горкі дым, што набіраўся за ноч над гарэлым тарпяным балотам. І ня раз гэты дым затрымліваўся ў пышных калюшках адзінокага дрэва. То той, то другі—кожны дзень так ці йначай казаў пра няшчасьце, пра гэту гар тарпявіны.

Ясна было нават і пнём, што іх усіх тут чакае.

Хвоіны думкі цяпер кружыліся каля аднаго... І так ёй міла стала цяпер жыцьцё і гэты сьвет. Здавалася, з вачэй яе апала пялёнка, і яна першы раз зірнула навакола.

І нейкі жаль агарнуў адзінокую Хвою. Ёй шкода стала ўзгоркаў, што беглі ва ўсе канцы. Як прыгожа выглядалі іх зялёныя пакаты! Жоўтыя пясочкі былі так ласкавы, так прыветны... Эх, колькі хараства навакола! І як гэта ня бачыла яна раней усяго гэтага! Даўнейшы яе сум, яе нараканьне на сваю долю, цяпер, у яе ўласных вачох, былі так нязначны й непраўдзівы.

А агонь усё блізіўся, ніклі астатнія надзеі. Паволі цягнуліся дні трывогі й страху. Сонца высушвала апошнія сокі з зямлі, і вецер разносіў па сьвеце яе жальбу—лёгкую, сінявату смугу...

— Эх, якая сляпая была я,—казала Хвоя:—ня ведала я цаны жыцьця, а пазнала яе тады, калі сьмерць ужо кінула цень на мае галінкі.

— А як табе здаецца, Хвоя,—спытаў яе вецер:—што лепей: пражыць свой век ціха, спакойна, не пазнаўшы, як міла жыцьцё, ці пазнаць яго хараство і вартасьць цаной вялікага няшчасьця?

Маўчала Хвоя, і яшчэ ніжэй павісьлі яе пышныя галіны.

1917 г.

## ЧЫЯ ПРАЎДА 1913

Дубы шумелі аголенымі лапамі. Гэтым шумам-гулам спатыкалі яны кожную вясну. І была ў гэтым шуме радасьць паноўленага жыцьця; але чулася ў ім калі-ні-калі і нейкая глухая, затоеная трывога. Толькі-ж гэтая трывога не пакідала глыбокага сьледу на твары магутных дубоў. А кожны новы дзень вясны, кожны погляд сонца дадавалі столькі дабраты, столькі хараства, што не хацелася і ў думках мець гэту няясную трывогу. Патыханьне цёплага веснавога ветрыка ў маладзенькіх дубовых лісточках, яго вясёлая гутарка з імі рабіла дубоў нават шчасьлівымі.

Сярод гэтых дубоў быў адзін, што стаяў на вотшыбе, на беразе рэчкі. Высока паднятая, лысая галава яго, бязьмерна тоўсты жылалісты камель казалі за тое, што гэты дуб быў разважнейшым спаміж усіх тутэйшых дубоў. І тады, калі дубы пераставалі думаць аб нягодах іх долі, гэты дуб заставаўся сур'ёзным і не паддаваўся парываньню маладой радасьці.

— Слухайце, што я скажу вам, хлопцы дубы!—пачаў раз гэты мудры дуб:—вот вы прыціхлі, заспакоіліся, і шчасьлівыя мары зрабілі вас як-бы дзяцьмі... Што-ж, я хацеў-бы, каб ваша радасьць ня мела канца, і няхай-бы ваша доля была яшчэ шчасьлівейшая; толькі-ж я мушу сказаць вам, што ня месца быць радасьці там, дзе ўзьняліся касьцяныя рукі неадваротнай сьмерці.

Апошнія словы старога прагучалі жудою. І як ня йшлі яны да таго, што было навакола!

А навакола было так згодна, хараша і радасна,—усё роўна, як зямля сьвяткавала вялікае сьвята. Стары лес, што стаяў за рэчкаю, пазіраў важна і лагодна, бы гаспадар на багаты ўзрост сваіх ніў. Вада ўжо зьбегла з лугоў, і зарастаў

іх зялёны кажушок маладой травінкі, і пахнуў гэты луг раджайнаю сырасьцю. На гэты бок рэчкі йшлі прыгожыя скаты жоўтых узгоркаў, на каторых цямнелі маладыя купчастыя хвойкі, вясёлыя і прыветныя. Над імі снавала лясная жаваранка, і песьня яе разьлівалася срэбрам у сініх бяздонных хвалях стэпаў. У небе там і сям вынікалі пазалачоныя клубочкі прыгожанькіх хмурынак і згодна зьвісалі яны, сьветлыя веснавыя мары, над шырокімі палямі, над лугам, што разьлёгся па абодвух берагох рэчкі і бег далёка-далёка ў закрытую сіняватай смугой даль... Было хараша, добра, так хараша і добра, што дубом прыкра было слухаць злавешчую гаворку старога дубу.

— Што ты прaракуеш, бацька-дуб?—сказаў высокі дуб з разложным верхам:—нашы ліхія часы прашлі: мінулася зіма з маразамі, на сівер пашлі халады, зьбегла паводка, зноў сонца, радасьць, жыцьцё. Прыслухайся ты, што робіцца вакруг, на сябе самога азірніся: унь бусел апраўляе гняздо на тваіх старэчых плечах, гняздо, каторае ты трымаеш з давень-даўна; а колькі ў ім птаства рознага! Ї ўсе радуюцца, жывуць і аб сьмерці ня дбаюць. А мы хіба сіроты ў бога, ці радасьці нам бог пашкадуе, што мы павінны сумаваць—думаць аб сьмерці?.. Не, няпраўдзіва твая гутарка!

— Няпраўдзіва, няпраўдзіва!—загулі разам дубы:—ты—стары, сілы ў цябе няма і табе зайздросна пазіраць на тых, каму весела, хто жыць хоча.

— На ім ужо і жалуды не растуць,—сказаў, сьмяючыся, блізшы сусед мудрага дубу.

— Лепш зусім ня мець жалудоў чым мець іх дзеля сьвіной уцехі,—адказаў ён:—а я ўсё-ж такі хачу перасьцерагчы вас. Ужо колькі гадоў кажу вам аб гэтым, але вы ня слухаеце. Ну, што-ж? тым горай будзе для вас, тым цяжэй будзе зірнуць у твар няшчасьцю.

— Ну, і натура ў цябе, бацька-дуб! От як уляпаў у вадно і тое,—то мелеш і мелеш, і губа табе ніколі не зачыняецца. З кім ня бывае бяды? От мы стаімо тут, а заўтра можа загрымець гром, лясьне пярун—і няма нас! Можа бура выверне нас з долу... Ці мала якія могуць быць выпадкі? Што варажыць аб тым? Што паможа, калі мы ўсе пачнем гінуць тут, як ты? А цяпер я ня бачу бяды: мне весела, бо і ўсім тут весела; я хачу сьпяваць і, каб мог, то выскачыў-бы і пашоў-бы ўпрысядкі.

І дуб, каторы гаварыў гэта, пачаў уздымаць то адным, то другім сукам, як-бы і папраўдзе рыхтаваўся ўпрысядкі.

— Маладзец! Маладзец!—падбадралі яго другія дубы:— от зрэзаў старога, дык зрэзаў! Што ён цяпер скажа?

— А я скажу, што вы сьляпыя, і ў сьлепаце сваёй вы шчасьлівы. Я кажу не пра такія неспадзевы. Гэта праўда, што шмат чаго мы не прачуем і не дабачым. Праўда і тое, што кожны час можа прынесьці нам згіноту. Нас можа сьсеч сякера людзкая, можа які-небудзь жэўжык пастушок выпаліць наша нутро... Што-ж, усё гэта бывае. Але зірнеце вы трохі далей; гляньце на тую стужку бліскучай вады, што так зграбна апяразвае стары лес. Я бліжэй стаю ад яе і больш бачу за вас. Усё дно яе выслалі дубовыя трупы. Калісь-то і яны былі здаровымі, крэпкімі, радаснымі. А дзе яны? Дзе нашы сябрукі, разложыстыя, тоўстыя дубы? Дзе той дуб-веліч, што заглядаўся на прыгожую рэчку і сьмяяўся над злосьцю бур і вятрсў? Зірнеце вакол—дзе яны? І ці ня гэта самая доля чакае тут усіх кас?

Гэта была шчырая праўда. І змоўклі вясёлыя дубы, і вялікі смутак агарнуў іх. Змоўклі радасныя іх сьпевы-шэпты, і журасна-жалабна шумелі іх верхавіны.

— Ну, на што ты адабраў ад іх радасьць, дуб-бацька,— спытаў старога дубу яго прыяцель,—раскрыўшы ім вочы?

— Лепш быць нящчасным, але відушчым, чымся шчасьлівым, ды сьляпым,—адказаў дуб.

1913 г.

# КРЫНІЦА

Можа вы і не паверыце, каб гэта ўсё была праўда. Але ці так яно было, ці ня так—спрачацца ня буду.

Скажу проста: гэта крынічка напэўна частавала сваёю вадою яшчэ вашых дзядоў-прадзедаў.

Яе вада—найчысьцейшыя сьлёзы веснавых хмарак, што з утварэньня вякоў ходзяць над зямлёю такімі прыгожымі чародкамі. Яе беражкі—аксамітныя межы, а з-пад гэтых аксамітаў зьзяла золата жоўтых пяскоў.

А тыя землі, што ляжалі побач! Колькі хараства, колькі мудрага задуменьня было ў іх!

Ня дзіва, што тут, каля гэтай крынічкі, кіпела жыцьцё, бо кожнаму хацелася стаць бліжэй да вады, каб палюбавацца на сваё ўласнае хараство ў яе люстра, як гэта любілі рабіць прыгожыя краскі. Другім хацелася паслухаць цікавую музыку, якую складалі дробненькія хвалькі, скачучы з каменьчыка на каменьчык, трэція таўхаліся тут, каб крыху адпачыць у прахладзе бліскучых хвалек, чацьвертыя гарнуліся сюды—проста, гледзячы на другіх.

Але крынічка была такая сукромная, такая сарамяжлівая, што нават не зварачала ўвагі на сябе самую і ніколечкі не пагарджалася сабою. Цякла і цякла, куды несла яе нязнаная сіла; яшчэ нават старалася і ня думаць пра тое, якую важную ролю аб'яднаньня жыцьця выпаўняла яна. А тая гара, што дала ёй пачатак жыцьця, пазірала на яе з любасьцю і гордасьцю мацеры. Часамі яе жоўтыя камяністыя пакаты асьвячаліся такою радасьцю, такою ўсьмешкаю здаваленьня, што ўсім тут рабілася лёгка, добра, ціхамірна. Найчасьцей гэта здаралася тады, калі ўсё вакол пачынала абуджацца пасьля ночы. З-за далёкіх рубяжоў зямлі, дзе неба так нізка пахіляецца да яе, узьнімалася залатая карона, і агнявісты сноп яе

блёскучых праменьняў, як стрэлы, разьляталіся па зямлі і па небе. Лясная жаваранка і салавейка ў цяністых кустох стараліся навыперадкі павітаць сонейка першымі, і іх песьні такою здольнаю музыкаю дрыжалі ў хвалях паветра ціхай раніцы. І праўда, трудна было сказаць, хто з іх лепей сьпявае.

Але часы, гэтыя незалежныя зьмены жыцьця, мяняліся і, бывала, нейкі смутак ахопліваў гару. Тады яна агортвалася сівою наміткаю туману і аб чымся моцна тужыла. Ніхто ня ведаў, якія прычыны засмучалі гэту добрую горку. А гара-маці, як відаць, думала аб далейшай долі свае дачкі. Чуткае мацярынскае сэрца адгадвала тое, чаго так часта ня можа прадгледзець нават сталы розум, узбагачаны зьявамі і ўмовамі жыцьця.

— Эх, дачушка, дачушка!—уздыхала гара.

— Чаго, матулечка, так цяжка ўздыхаеш?—пытала крынічка.

— Эх, любачка! ты яшчэ мала жывеш на сьвеце і шмат чаго ня цяміш, блазьніца. А я, стоячы тут з незапомных часаў, навучылася бачыць тое, чаго ня бачыш ні ты сама, ні гэтыя пышныя і крыху падзіманыя дубы, ні наогул усе больш-менш малыя тутэйшыя жыхары. Толькі людзі, і то ня ўсе, а самыя сталыя, самыя разумныя з іх, што пільна і празарліва ўглядаюцца ў кнігу жыцьця зямлі, могуць трошкі разьбірацца ў гэтых справах.

— Што-ж ты хочаш сказаць, матуля?

— Мілая дачушка! Даўно я замячаю, што ў зямлі дзеецца штосьць нядобрае. Чуе маё сэрца, што нейкая сіла рыхтуецца на тое, каб павясьці цябе па другой дарозе.

— А што можа рабіцца ў зямлі?—спытала задзіўленая і зацікаўленая крынічка:—зямля так спакойна, нярухома, як-бы зусім акамянела і застыла ў сваім жыцьці.

Слухалі травы, слухалі краскі, слухаў ракітнік і лазьняк, пташкі, нават салавейка прыпыніў сваю песьню і прыслухоўваўся, як і ўсе тут, да гэтай размовы. Ім здавалася, што нікога на сьвеце няма мудрэйшага за крынічку, бо аб такіх цікавых і мудрых рэчах гаманіла з імі яна! А тут і сама крынічка шмат чаго ня ведае. І ўсе замерлі—так уніклiва слухалі яны гэту гаворку.

— Эх, неразумнае дзіцятка!—сказала гара:—гэта толькі павярхоўнаму воку нявідна нічога. Зямля жыве, у яе жыцьці многа-многа зьмен, толькі-ж яны выяўляюцца так павольна, так незаметна, і на першы пагляд здаецца, што яна скончыла свой круг. А ты вазьмі ветра: чаго толькі ня робіць ён? А гэтыя прыгожыя хмаркі, што любяць так часта прапаўзаць над намі, каб адбіць у люстры тваёй чыстай вады свой вобраз. А дождж ык і другія схованыя ў нутрах зямлі сілы! Але ня ў гэтым справа, пра гэта мы пагаворым другім разам. Справа-ж у тым, што цябе хочуць павярнуць на другую дарогу.

— А чым-жа, матуля, гэта кепска? Ну, і пайду, і пабягу ў другіх берагох... Скажу табе, родная, мне і самой хацелася паглядзець на другія краіны белага сьвету.

Засмуцілася старая гара, пацямнелі яе прыгожыя пакаты, бо вечар павольна апускаўся на зямлю, і за рубяжамі далёкіх пагоркаў хавалася сонца.

— Я мушу перасьцерагчы цябе, дачушка,—зноў сказала гара:—наўперад ты добра падумай, а ўжо тады выбірай свой лёс. Ніхто, дачушка, ня можа стрымаць твайго жаданьня, і ты пойдзеш туды, куды цябе так цягне твая цікавасьць. Ты пойдзеш у другі бок, у другія краі, панясеш ты сваю ваду. Праўда, ты спаткаеш шмат новых зьяў, угледзіш тое, чаго табе і ня сьнілася. Але памятай, дачушка, успомніш ты сваю старую матку, успомніш аксаміты тваіх беражкоў і залатое сваё дно і моцна-моцна пацягне цябе сюды, бо сярод чужынцаў ты згубіш свой вобраз, ты сатрэшся з твару зямлі. А я тут буду стаяць адна, і туга разлукі з табою высушыць маё сэрца. Ты паглядзі: унь там, бачыш, стаяць горы, а на іх расьце лес. Гэта ўсё мае сваячкі, і не сягоньня-заўтра яны таксама, як і я, дадуць пачаткі новым крынічкам, і яны будуць бегчы сюды, і калі-б ты пачакала, то зьліліся-б з табою: нахіл зямлі якраз ідзе сюды. Тады вы станеце магутнай ракою, і вам у гурце ня страшна было-б кацiцца ў сьвет, вас ніхто не адолее, і вы ня страціце сябе на чужыне. Вы-б ажывілі ўвесь гэты край, ён стаў-бы багатым на зайздрасьць чужынцам.

І яшчэ скажу табе адно: калі ты пачуеш, як садрыгнецца вада, то скарэй, як мага, старайся перарэзаць, прабегчы абвал,

які ляжа папярок твае дарогі, і ты пацячэш па старому жолабу. А ня зробіш гэтага, то ты ўжо будзеш прымушана зьвярнуць на другую дарогу, куды цябе горне гэта няяснае, гэта так павабнае жаданьне навіны.

Вечар даўно кінуў намітку шараватага змроку на заціхаючую зямлю. Гара маўчала і штось думала аб чымся, ціха разважаючы. Поўны месяц устаў на небасхіле, усьмяхнуўся, бы той падарожны, страціўшы надзею на добрую долю, і яго таемны і тужлівы воблеск разьліўся над ціхімі разлогамі зямлі і неба. Крынічка ўсё бегла, усё гнала хвальку за хвалькай, поўная раздум'я. Булькала і зьвінела, як музыка, і зачароўвала зялёныя беражкі, залатыя мары снаваліся над пахіленымі галоўкамі прыгожых красак. Месячык падплыў яшчэ вышэй і кінуў сваю касу ў лона крынічкі і зачараваў яе. Цяпер ёй яшчэ мацней захацелася ісьці далёка, бо ёсьць нейкае невыразнае харawство ў гэтых прыгожых далях, у гэтых няясных парываньнях да невядомага.

Але гэтыя прыгожыя мары-лятуценьні раптоўна перабіліся: крынічка пачула, як пад ёю здрыганулася зямля, і цяжкая глыба адарвалася ад гары-маткі і загарадзіла ёй дарогу.

— Я не праб'юся! Я не праб'юся!—прашаптала крынічка.

— Хутчэй, хутчэй, дачушка, ты здолееш прабіцца! — у натхненьні мацярынай любасьці і страху дарагой страты, поўная трывогі, казала гара.

— Я не праб'юся!.. Што-ж? На новую дарогу.

І ў другі бок пабегла крынічка. Заплакала гара буйнымі росамі...

Асірацела старая гара, пераляцеў кудысь салавейка, пасохлі прыгожыя краскі. і жоўтымі пяскамі засыпаў вецер прыгожую дарожку крынічкі.

Нарадзіліся і пацяклі другія крынічкі, утвараючы новае жыцьцё, а гэта, калісь шумлівае і вясёлае месца пачало заміраць і глухнуць. І толькі адна гэта гара з абветранымі пакатамі яшчэ сьведчыла аб даўнейшых часох поўнага жыцьця. Нават трава не расла тут, і толькі непатрабоўны і згаджаючыся з цяжкімі ўмовамі жыцьця сівец сям-там раскідаўся крупінкамі па гары.

Прашоў яшчэ час.

Была раніца. Адвечнае сонейка пачынала новы дзень. Ціха ўзьнімаўся над лагчынамі туман, крычалі дзесь гусі. Лесавая жаваранка ўжо снавалася ў небе і вітала яснае сонца. Яна так і засталася тут, каля гэтай гары-сіраты і толькі адна яна разганяла яе журбу, і часамі ўсьмешка засмучанай радасьці асьвячала яе жоўтыя пакаты.

Скончыўшы песьню, жаваранка села на камень, што ляжаў на самым верху гары, і сказала:

— Паслухай, маці, а да цябе прышлі дарагія госьці, толькі яны баяцца зірнуць табе ў вочы.

На купінках сіўца блішчэлі, як сьлёзы, буйныя кроплі расы.

— Ах, мілая матуля,—загаманілі кроплі:—мы прышлі да цябе, бо вельмі-ж смуціліся па табе ў далёкіх невядомых краёх. Мы—часткі тваёй роднай крынічкі, што цякла з твайго сэрца. Даруй-жа нам, матка, што мы не паслухалі цябе.

Ї расказалі аб сваім бадзяньні.

Аб чым маглі сказаць яны, падумайце самі.

Гара-ж ім сказала:

— За тое, што вы не паслухалі свае маткі і кінулі сваю родзіну, вы будзеце вечна кружыцца па сьвеце і ніколі ня збудзеце сваёй жальбы па родных кутках, і нідзе ня будзеце мець вы прытулку на сьвеце.

Прыгрэла сонейка, зазьзялі кропелькі дарагімі каменьнямі і зьніклі.

Куды-ж яны дзеліся? Куды?

1921 год.

## ГУСІ

Гэта было стада звычайных гусей, свойскіх гусей. А калі й зачалася аб іх гутарка, то толькі затым, што ў іх было адно нязвычайнае жаданьне, якога ня было ў другіх свойскіх гусей. Можа яно і было, але ня так выразна ў іх яно адзначалася.

Тая рэчка, што цякла тут, была па справядлівасьці царыцаю рэк. Такога мноства вады, такой сілы яе імкненьня, такіх глыбінь і страшных цёмных віраў, дзе кіпела, бурліла, дрыжала і ўздымалася шырокімі клубкамі вада, ня мела ні адна рэчка.

І самыя берагі гэтай рэчкі былі так прыгожы, так разнаіты, што ад іх трудна было адвясьці вочы. Высокія адвечныя горы нацiскалiся то з аднаго, то з другога берагу, раскрываючы свае рознакаляровыя пакаты, і адбіваліся ў бліскучай вадзе. Шырокія лугі таксама падыходзілі да рэчкі, расьцілаючы свае пышныя каберцы, сатканыя сонцам з самых тонкіх траў і з самых прыгожых красак.

А лес! Ня можна налюбавацца гэтым лесам! Высокі, густы, сакавіты, поўны радасьці, сьмяючыся тысячамі сьмехаў, якi блукаў і на яго камлёх, і на яго галінах, і кожным яго лісьціку, стаяў ён водаль, побач рэчкі, расступаючыся перад ёю, як перад пышнаю красуляю-княгіняю, і пачціва зьвешваў над ёю свой салаш, жывую зялёную павець. І была ў гэтага лесу нейкая мара, поўная хараства, нейкая патайная думка, поўная чараў, і нейкае нявыразнае чаканьне чагось вельмі важнага і значнага, і гэта жаданьне, здавалася, выявіўшыся, магло зьмяніць зусім увесь вобраз гэтага жыцьця.

Але ня гэтыя адвечныя горы, прыкрытыя тонкаю намёткаю сіняватага туману, ня гэтыя пышныя каберцы зялёных лугоў і ня гэты чароўны лес, што цёмнымі зграбнымі дужкамі,

бы чорныя дзявочыя бровы, бег ад рэчкі кудысь к небасхілу,— ня гэтым цікавалася гусінае стада, ня гэта было іх жаданьнем, якое запаўняла іх гусіную істоту. Далёка ўгары рэчкі быў зялёны прыемны астравок—туды хацелі дайсьці гусі, туды ляцела іх душа, там былі іх думкі, іх найбольшыя жаданьні.

Але пакрыўдзіла прырода гэтых гусей: не дала ім лёгкіх і здольных крыльляў, каб маглі яны перанясьці гусей праз тыя парогі, што стаялі на іх дарозе і якіх ня здолелі пераступіць іх няўклюдныя ногі.

Востраў з трох бакоў быў адгароджаны такімі густымі, пераплеценымі лозамі, што праз іх нельга было гусям праціснуць сваё дзябёлае цела.

І часта гэта стада гусей, спатыкаючыся з другімі гусямі, заводзіла гутаркі пра той павабны востраў і пра тыя дарогі, ідучы па якіх можна было-б дасягнуць да вострава.

І казалі другія гусі, што ніяк не дайці ім да гэтага вострава; да яго вядуць толькі дзьве дарогі: адна дарога—узьляцець у паветра, другая—даплыць па вадзе. Бяда толькі ў тым, што гусі лятаць не аматары, а плаваць яны хоць і здольны, але ўгару па вадзе на такой быстрыні, як тут, усё роўна да вострава ім не даплыць.

— А што рабіць?—пыталі гусі з нязвычайным жаданьнем.

— Трэба ўмець выбраць час,—адказвалі ім.

Першыя гусі не згаджаліся з гэтым.

І доўгая спрэчка вялася між імі.

— Вы пачакайце,—казалі другія гусі:—за нас будуць рабіць, нам будуць дапамагаць другія сілы на зямлі: чалавек, вецер і дождж. Чалавек працярэбіць сьцежкі скрозь лозы, вецер паразьдзімае зрывістыя пакаты гор, дождж іх размые, і сама рэчка тая сама нам будзе памагаць. Размыўшы берагі, яна пакоціцца спакайней, а дождж прамые глыбокі жолаб у пакатах гор: тады і можна будзе дайсьці да рэчкі, тады можна будзе плыць па рэчцы і процiў вады.

— Вы—кепскія гусі, бо вы ня маеце тых вялікіх жаданьняў, якія дадаюць сілы нам. Вы залішне заплылі салам, і вам наагул страшна ўсякая барацьба, усякае змаганьне. Вы—мяшчанскія гусі. Нам дарага толькі ўсплыць на рэчку, але мы найдзем да яе дарогу.

— Знойдзеце! знойдзеце!—прашумеў вецер.

Ї нагнаў вецер на неба калматыя, вялізарныя клубкі цёмных хмар, узброіла іх сонца маланкамі і громамі, і густа зьвісьлі яны над зямлёю. Ї пацёкі дажджу рынуліся на ніз. Прашла навальніца. Раўла і гудзела вада і разрывала зямлю і пралажыла яна дарогу да рэчкі.

Кінуліся гусі на гэту дарогу. Радасным крыкам вітаюць яны гняўлівую рэчку.

Выплылі гусі на сярэдзіну рэчкі. Павабны астравок вот-вот ляжыць перад імі. З сярэдзіны рэчкі глядзіць ён яшчэ прыятней, яшчэ павабней.

Ї сіла, нязвычайная сіла зьявілася ў сьмелых гусей. Як пружыны, ходзяць чырвоныя іх лапкі, як вострагруды чаўнок, рэжа іх цела ваду. А востраў так горне, так прыцягае іх жаданьні. Ї нічога не гавораць між сабою гусі, адна ў іх воля— даплыць да востраву. Але востраў далёка, далёка ўсё гэты востраў. Плывуць гусі, упіраюцца лапкамі ў ваду.

— Глядзеце! ці не здаецца вам, гусі, што востраў як-бы стаў далей ад нас?—спытала адна гусь.

— Маўчы!—сказаў гусак, што вёў усё стада:—без змаганьня і няўдач нічога не даецца на сьвеце.

Трывога і сумляваньне закраліся ў гусіныя сэрцы, і пачулі гусі, што сілы бракуе ім і што не ўпярод плывуць яны, а назад.

Загергаталі гусі праразьлівымі галасамі.

— Няма ў нас сілы адалець раку.

— Глядзеце, глядзеце! Востраў усё далей ад нас.

З сярэдзіны рэчкі падаліся гусі ў бераг, каля берагу гусі шукаюць дарог. А там падхапілі іх віры.

Ї ня могуць гусі даплыць, дасягнуць жаданай мэты і на бераг ня могуць узыйсьці.

Ї думалі гусі, што справа іх прапала. Але змаганьне загартавала іх сілы. Акрэплі іх крыльлі і лёгкім стала іх цела. Махнулі крыльлямі гусі, срэбраныя пырскі над рэчкай узьвіліся, і паляцелі сьмелыя гусі на той жаданы, на той недасяжны востраў.

1921 г.

## ШТО ЯНЫ СТРАЦІЛІ?

*Казка*

Калі вы скажаце, што гэта ня праўда, а байка, то я запытаюся: а дзе тая мяжа, што аддзяляе праўду ад выдумкі? І ці ня бывае так, што выдумка ходзіць, як праўда, а чыстую праўду лічаць за выдумку?

А калі так, то прашу слухаць уважна.

Каму прыходзілася хоць раз пабачыць гэты куточак, той напэўна не забудзе яго ніколі. Гэта быў акраек лесу, таго самага лесу, дзе і цяпер стаяць такія слаўныя дубы.

Ня ведаю, як каму, а маім героям, аб якіх павядзецца гутарка, жылося тут нязвычайна весела. Яно, калі сказаць праўду, іначай тут і быць не магло, бо гэты куточак быў вельмі прыгожы. Лес, пераважна дубовы, стаяў на ўзгорку. На тэй яго старане, што выходзіла на ўсход, цягнуўся цэлы шырачэзны пас дубоў. Дубы былі выносныя, стройныя, бы точаныя, і такія тоўстыя, што тры чалавекі не маглі абняць іх рукамі.

Пад гэтым узгоркам блішчала круглае возера, яно паліскала і пералівалася, як жывое срэбра. Над саменькаю вадою цягнуўся прыгожы шляк сакаўной зелені. Тут былі высокія, гладкія сітнякі і цэлыя зарасьлі аеру. Мястамі пападаліся кучаравыя, круглыя кусты лазы; сям-там прыкідаліся высокія, пышныя алешыны, а па суседзтву з імі красаваліся дзьве прыўдалыя хвоі: здавалася, гэта дзьве маладзіцы, што пашлі па ваду ды загаварыліся, а загаварыўшыся, так і засталіся там. Тут-жа была і рачулка, бойкая і праворная. Прыпыніўшыся ў возеры, зноў лілася, павівалася яна ў зялёнай даліне. Таксама заслугоўвае ўвагі і гэта даліна, бо калі ўставалі грозныя, цёмнасінія хмары і грымелі далёкія громы, то гэтыя громы нязвычайна выразна каціліся-дрыгацелі па даліне, абягалі возера, і ціха калыхаліся тады палахлівыя чароты, чуць-чуць пагойд-

валіся стройныя сітнякі; і нават сам лес ціха і таемна шапацеў сваімі чульлівымі лісточкамі-струнамі, зьліваючыся ў нявыразна прыгожую музыку. Здавалася, усё напаўнялася тады сьпевамі і музыкаю, такою музыкаю, што ніякія музыкі на сьвеце не маглі яе пераняць.

Была раніца.

Залатыя стрэлы сонца, рассыпаўшыся па ўсім сьвеце, выносілі новы дзянёк, той дзянёк, які меў у сабе ўсе тыповыя рысы самага лепшага лета. Мяккая, роўная, ласкавая цяплыня паволі разьлівалася па зямлі, а разам з гэтым і нейкая радасьць уздымалася ў сэрцы тых, хто так ці йначай адчуваў жыцьцё.

— Сонца ўзышло!—ціха і радасна абвясьціў усход сонца стары дуб на ўзгорку, а яго лісьце чуць-чуць задрыжала

— Сонца ўзышло!—шэпатам сказалі дзьве хвоі. Гэту вестку падхапілі сітнякі, чароты, аеры, і праз колькі хвілін стала вядома на возеры і на акрайку лесу, што ўзышло сонейка. Рачулка яшчэ далей панясла гэту вестку, і аб усходзе сонейка даведалася кожная красачка, кожная травінка. Гэта быў нязвычайна радасны момант абуджэньня прыроды, асабліва тады, калі ў чыстых кропельках расы зазьзялі вясёлкі,—тысячы, мільярды вясёлак. Але гэта быў толькі адбітак усьмеху сонца.

Бабка зялёнакрылатка сядзела на чарацінцы. Яе тоненькае, стройнае цельца шчыльна прытулілася да лісьціка чарапіны, а на крыльцах чуць-чуць выступалі малюпасенечкія кропелькі расы, і ёй цяжка было паварушыць імі. Але абагрэла яе сонейка, абсохлі крыльцы. Зусім ажыла, павесялела зялянушка-бабка, як-бы другі раз на сьвет нарадзілася. Яна азірнулася навакола—ёй проста хацелася хоць каму выказаць сваю радасьць, сваё шчасьце, і калі пралятала тут ластавачка, то яна не магла стрымацца, каб не сказаць:

— Давай пагаворыма, ластавачка!

Ластавачка крута ўзьвілася над возерам, у мгненьне вока апісала дужку, чуць-чуць чыркнуўшы вострым канцом крыла па вадзе, ад чаго па возеры пабеглі срэбраныя абручыкі.

— Ах, як гэта прыгожа!—зноў прамовіла бабка:—паглядзі, як бягуць-калышацца роўненькія кругі па вадзе! І гэта ты прывяла ў рух такое вялізарнае возера?! Дзіўная справа!

І колькі хараства на сьвеце! Ці няпраўда, ластавачка: жыцьцё—гэта самае большае шчасьце на зямлі!

— Затым-жа ўсе мы, зелянушка, любім жыцьцё,—зашчабятала ластавачка.

— Ведаеш, якая мне прышла ў галаву думка? Мне здаецца, што большага ня можа быць шчасьця, як адчуваць кожны момант, што ты волен, можаш рабіць, што ты захочаш, можаш ляцець, куды табе зажадаецца.

— Так, зелянушка,—зашчабятала ластавачка:—я-б дадала:—шчасьце можа быць поўным толькі тады, калі ўсе вакол цябе адчуваюць сябе шчасьлівымі.

— Я зусім далучаюся да гэтае думкі,—квакнула зялёная жаба.

— Вядома, вашэці, так,—прэзьвінела муха:—калі я бачу, што ўсе вы вясёлы, і мне таксама весела, то ад гэтага толькі павялічваецца паўната агульнага шчасьця.

— Я лічу немалазначным і той факт у вагульнай складанасьці гэтага шчасьця, калі да ўсяго іншага далучаецца і элемэнт мудрасьці,—важна зазначыў доўганосы камар:—тады і вызначэньне самога шчасьця выходзіць з правільнага пункту погляду. Дык няхай жыве вясёласьць, воля, агульная згода і мудрасьць.

— Ах, якая цікавая тэма размовы!—азваўся матылёк:—я з свайго боку дадаў-бы, што шчасьце таксама залежыць—і нават у значнай меры—і ад хараства.

— Гэта справядліва, гэта справядліва!—пацьвярдзіў чорнавокі конік і заварушыў сваімі прыгнутымі даўгімі ножкамі.

— Выбачайце, шаноўнае грамадзянства,—забубніў авадзень:—я трымаюся другога погляду на рэчы. Скажэце, што станецца з вашым шчасьцем, калі жывот будзе трубіць жалобу пустаты? Дзе тады дзенецца ваша вясёласьць? Што будзеце рабіць з вашаю воляю і як будзе тады стаяць справа з вашаю агульнаю згодаю?

— Бум-бум-бум!—зарагатаў авадзень:—а ўся ваша мудрасьць пакіруецца тады выключна ў бок вышукваньня спосабаў запоўніць пустату вашых жывоцікаў, а ўсё хараство і ўся эстэтыка пойдуць на скасаваньне. Не, другі мае: каб быць шчасьлівым, то трэба, каб і жывот пустым не заставаўся.

— Фі, авадзень! як вульгарна выказваеце вы думкі вашы,—прамовіла, скрывіўшыся, сінякрылая бабка:—так і відаць, што вы больш каля скаціны ходзіце.

— У вас, бясспрэчна, ёсьць здаровыя думкі,—падтрымаў авадня доўганосы камар:—але я таксама згаджаюся і з паннаю сінякрылаю бабкаю ў тым, што гэтыя думкі маглі-б быць выказанымі і ў больш далікатнай форме, тым болей у прысутнасьці такіх прыгожых дзяўчат.

Зялёнакрылая і сінякрылая бабкі падарылі камара нязвычайна пяшчотным поглядам, ад чаго камар увесь паварушыўся, дрыгнуў лапкамі і вельмі галантна пакланіўся ім.

— Я ня люблю ахінаць праўду ў прыгожыя пустыя словы, а бяру яе так, як яна ёсьць,—адказаў авадзень.

— Што гэта ў вас за гармідар такі?—спытала мурашка і лапкаю абцёрла са лба гарачы пот. Відаць, яна прашла трудную дарогу, перабіраючыся з травінкі на травінку па розных кладках, покі не прыпаўзла сюды.

Чорнавокі конік у кароткіх словах пазнаёміў мурашку са зьместам агульнай размовы і ў заключэньне спытаў:

— А ваш які погляд на шчасьце?

Мурашка на момант злажыла на галаве дзьве пярэднія лапкі і задумалася. Падумала і сказала:

— Шчасьце... гм... Прызнацца вам, я ніколі ня думала аб тым, што такое шчасьце. Дый калі мне думаць над гэтым, пасудзеце вы самі? Выходзіш з дому, і твая галава забіваецца аднэю думкаю: дзе-б што знайсьці як-бы найлепш выпаўніць заданьні колектыву... Стойце! Стойце! Вось-вось крутнулася ў галаве думка і, здаецца, тая самая, якая мне і трэба.

Мурашка разам замлела—так моцна яна задумалася. Усе вакол таксама маўчалі, каб не пашкодзіць мурашцы злавіць і замацаваць патрэбную ёй думку. Толькі авадзень скэптычна пакруціў сваёю тоўстаю галавою.

— Вось што будзе шчасьце!—раптам выпаліла мурашка і села на жывот, заварушыўшы разам усімі лапкамі:—шчасьце—гэта найлепшае выпаўненьне волі колектыву, жаданьне прынясьці сябе ў ахвяру колектыву, сузнаньне, што ў яго дабрабыце ёсьць частка тваей працы; карацей сказаць: шчасьце—гэта гармонія таго колектыву, да якога ты належыш.

— А калі я не хачу належаць ні да якога колектыву, то маю я права шукаць сабе шчасьця і быць шчасьлівым?— забубніў авадзень:—ведаю я гэтыя колектывы! Мы, авадні, таксама маем трохі граху колектыву. І што-ж? Загудзе наш колектыў-рой каля якое там каровы або вала, а яны пападымаюць хвасты трубою, ды як паімчацца—і бывай здароў! А колектыў толькі аблізваецца.

— І ня дзіва, што паімчацца,—прамовіў чырвоны з крапінкамі матылёк: — ты адзін як загудзеш, то страшна стане. А што робіцца, калі вас зьбярэцца цэлы рой?

— Вы памыляецеся, авадзень, — сказаў шэршань: — як-бы вы ні тлумачылі сабе колектыў і яго мэты, як-бы асабіста ні глядзелі вы на колектыўны склад жыцьця, усё ж такі вы жывіцё, вы мусіце жыць у колектыве і па-за межамі яго, скажу проста, немагчыма бытаваньне асабовасьці!

— Брава, брава, шэршань!--запляскаў лапкамі камар:— мне нязвычайна падабаюцца вашы думкі і спосаб іх выказваньня.

У самы разгар камаровага красамоўства пачулася гудзеньне, і зараз-жа за гэтым, як бомба, пранёсься жук. Не пасьпелі тут і слова вымавіць, як жук парывіста ўляцеў у самую сярэдзіну сходу і тут-жа, не схаваўшы нават ніжніх мяккіх крыльляў, упаў на сьпіну і пачаў ад здаваленьня перабіраць крывымі ножкамі.

Зялёнакрылая і сінякрылая бабкі ахнулі і адначасна чуць не памлелі—такім раструханам паказаўся ім жук.

— Схавай, брат, сваю кашульку, бо нашы паненкі паўміраюць ад сораму,—сказаў да жука авадзень.

— Фі, фі! — запішчалі бабкі: — ах, які мужык! Як дрэнна ад яго пахне!

— Паслухайце, жук, вы вядзіцё сябе няпрыстойна ў кампаніі дам, — завярцеўся каля жука камар.

А жук, не зварачаючы ні на кога ўвагі, ляжаў на сьпіне і перабіваў нагамі.

— Эх, браткі, слаўна! Эх, слаўна! — выгуківаў жук: — ну-ж і папрацаваў я, ну-ж і пашанцавала мне! Шэсьць ям выкапаў я! А колькі дабра нанасіў туды! Колькі скарбу!..

Крута зьмяніўшы тон размовы, жук раптам перавярнуўся, акінуў поглядам увесь сход і спытаў:

— Ці шчасьлівы вы, прыяцелі мае?

— Шчасьлівы! — адгукнуліся ўсе разам.

— А што зрабіла нас шчасьлівымі?

— Хараство гэтае раніцы.

— Прыгоства нашага краю.

— Жыцьцё.

— Згода.

— Дабрабыт.

— Гармонія колектыву.

І яшчэ многа розных адказаў пачуў жук.

— Ну, калі так, то давайце-ж весяліцца!

І ўсе жукі, мухі, мошкі, пчолы, матылькі, бабкі, конікі, шэршні і восы і ўсе, хто на гэты час аказаўся тут, закружыліся, завярцеліся, зазванілі, загралі, забубнілі і справілі такі слаўны карагод і музыку, што і возера, і лес, і поле, і рэчка з далінаю слухалі і ад здаваленьня ціха ўсьміхаліся. Нават хмаркі на небе слухалі тыя сьпевы, тую музыку, слухалі і чагось хмурнелі. А за гэты час у прыродзе зрабілася нейкая зьмена, і цень ад лесу паволі насоўваўся і лажыўся на возера, а разам з гэтым і нейкі мрок выціскаў вясёлы настрой тых, хто кружыўся ў вясёлым карагодзе.

— Ня ведаю чаму, але мне штось маркотна стала, — скардзілася зялёнакрылая бабка, сеўшы на лісток аеру.

— Ах, і не кажы, мілая: і я чую нешта такое, як-бы штось страціла, — адказала ёй сінякрылая таварышка.

— Моташна мне ў вашым зборышчы, — прабубніў авадзень і паляцеў у лес пад кару старога дубу.

Пасядзела на купіне зялёная жаба і ні з таго ні з сяго бултыхнула ўніз галавою, перабралася на другую купіну і стала разважаць аб сваіх асабістых справах.

Чорнавокі конік зашыўся ў лазовы куст, сеў на лісток і пачаў стракатаць, каб заглушыць свой смутак. Камар, уткнуўшыся носам у траву, сядзеў над вадою, насупіўшыся.

Распаўзьліся, разьляцеліся ўсе, і кожны стаў думаць толькі аб сабе, жыць толькі сваімі інтарэсамі, але разам з гэтым кожным адчувалася нейкае нездаваленьне і брак чагось, але чаго іменна—ніхто добра ня ведаў.

Пад вечар уся кампанія ізноў сабралася на сходку. Колькі тут ні гаварылі, але такога тлумачэньня, якое задаволіла-б усіх, ніхто ня мог даць.

Толькі шэршань унёс пропозыцыю зьвярнуцца з запытаньнем да старога дубу.

Пропозыцыя была прынята аднагалосна.

Паляцела, папаўзла, паскакала ўся кампанія да старога дубу.

Шэршань, як найбольш знаёмы з дубам і болей адукаваны і спрытны на язык, выступіў ад імя сходу.

— Памажы ты нам, васпан дуб, разьвязаць адно вельмі важнае пытаньне. Некалькі гадзін таму назад мы былі шчасьлівы і вясёлы, сыпаліся жарты, былі танцы, выказваліся нязвычайна мудрыя мысьлі, я нават шкадую, што мы іх не запісалі. Але незаметна для нас самых зрабілася з намі штось такое, што мы страцілі свой добры настрой і гумар, прасьцей сказаўшы, згубілі сваё шчасьце. Але гэтага мала: страціўшы шчасьце, мы сталі сярдзітымі, неўспагаднымі, адзебялела наша сэрца, адзервянела наша душа, мы гатовы накідацца адзін на другога, і такія выпадкі, на жаль, мелі месца ў нашай корпарацыі. Скажы-ж ты нам, васпане, якія прычыны парадзілі такую ненормальнасьць? Чаго нам бракуе?

— Дзеці мае!—важна сказаў дуб:—вы забыліся прыняць пад увагу адну вельмі важную акалічнасьць, калі вы казалі, у чым знаходзіцца шчасьце, а без яе поўнага шчасьця і ня можа быць.

— Чаго ня прынялі, чаго ня прынялі пад увагу, дзядзька?—хорам панясłося пытаньне.

А дуб, хоць ён у школу вучыцца не хадзіў і пэдагогікі не праходзіў, але быў добры пэдагог. Ён сказаў:

— Толькі тая веда робіцца нашым сталым здабыткам, якая здабываецца намі самымі. Калі вы не дадумаецеся заўтра самі, тады зьбярэцеся зноў тут, і я сам скажу вам, што вы трацілі і чаго вам бракуе, каб вярнуць ваша шчасьце.

1924 г.

## КУПАЛЬСКІЯ СЬВЕТЛЯКІ

Расьцярушыла ночка свой цёмны пыл і распляла над зямлёю свае чорныя косы, а сама, бы тая маці, прыхілілася ў лесе, каб вартаваць і ахоўваць сон людзей і сон прыроды. Гэта была добрая ночка. А каб на зямлі ня было так маркотна ў часе яе прыходу, яна пазьмятала з неба ўсе хмаркі, і яно зазьзяла тысячамі рознакаляровых агоньчыкаў-зорачак. І так слаўна бліскалі гэтыя адвечныя нябесныя вочы-агні. Яны дрыгацелі ў пералівах жывых агнёў, нібы гэта былі нейкія брыльлянцістыя матылькі, што, садзючыся на краску, трапечуць сваімі крыльцамі, сатканымі з праменьняў. А можа яны сьпявалі там свае песьні, робячы гэтыя дзіўныя рухі, але голас іх песень ня мог даляцець да зямлі з тых бяздонных глыбінь, бо самі зоркі былі вельмі далёка ад зямлі. Але было добра ўжо адно тое, што блеск гэтых зорак асьвятляў і ночку і тым самым рабіў меней заметным яе мрок. Тыя-ж, каму прыходзілася ў гэты час быць у далёкай дарозе, пазіралі на зорачкі і па зорках знаходзілі сваю дарогу, бо часамі ў сэрца закрадалася трывожная думка: а ці тая гэта дарога? А калі хто прачынаўся ўночы і таксама заўважваў зоркі на небе, то й таму было весялей, і ён думаў, а то проста выказваў у голас сваё здаваленьне.

Адзін чалавек шукаў у гэтую ноч цьвет папараці, бо кажуць, што ў Купальскую ноч зацьвітае папараць агнявістым цьветам. Многа людзей шукала гэтага цьвету, але мала хто з іх знашоў яго. Напэўна ніхто і не знашоў, па тэй ужо простай прычыне, што папараць ніколі ня цьвіце,—з таго часу, калі яна пачала расьці на сьвеце. Але, ня гледзячы на ўсё гэта, чалавек усё-ж такі знашоў яе цьвет, і гэта ніколечкі не супярэчыць таму, што гаварылася раней аб папараці, бо гэты чалавек не сапраўдны, а казка. У казцы-ж усё можа быць. Гэтая зна-

ходка зрабіла яго шчасьлівым. Усякія згрызоты і няпрыемнасьці не краналі яго. На душы ў яго было спакойна і радасна. А што цікавей за ўсё, дык гэта тое, што яму сталі вядомы галасы прыроды, і ён мог разумець яе думкі.

Ідзе ён і чуе, як перамаўляюцца дрэвы між сабою. Ён спыніўся. Яго зацікавіла гутарка двух вялізарных дубоў, што стаялі ўскрай лесу. Ноч, цішыня, бліскацьне тысяч зор, як відаць, настроілі іх на філёзофскі лад.

— Чым цікава гэтае жыцьцё,—казаў адзін дуб,—гэта тым, што яно вечна мяняецца, хоць і йдзе па сваіх пэўных законах, і разгортвае новыя свае старонкі; і колькі-б ты ні жыў, ніколі не пасягнеш яго складанай многалучнасьці.

— У гэтым і ёсьць мудрасьць жыцьця, брат мой дуб, бо калі-б мы пазналі яго таямніцы, нам ня было-б і ахвоты жыць на сьвеце.

— І няўжо-ж ніколі, ну, ня мы, а нашы патомкі, не пасягнуць гэтага сусьвету ўва ўсёй яго складанасьці?

— Думаю, што ніколі, бо вось і мы: чым больш высака падымаемся мы ад зямлі, тым большыя і шырэйшыя даляглады адчыняюцца перад намі... Я, ведаеш, люблю гэтыя бліскучыя зоры: іх асьвятленьне і вабіць і прыцягае.

— Нашоў чым захапляцца, дурань стары! Хі-хі-хі!—пачуўся новы тоненькі-тоненькі галасок. Голас ішоў дзесь з-пад каранёў дубу.

Чалавек зірнуў уніз. Па дубовых каранёх і па траве пад дубамі поўзалі харошанькія сьветлячкі. Галоўкі ў іх былі цёмныя—можа іх зацямняла ноч, бо яна стаяла тут недалёка і таксама слухала музыку цішыні і шолахі прыроды, яе гутарку. Затое-ж жывоцікі гэтых сьветлячкоў-жучкоў сьвяціліся зеленаватымі агоньчыкамі. Але трэба было вельмі ўважліва прыглядацца, каб прымеціць гэтыя агоньчыкі. Чалавек стаў слухаць, аб чым гаманілі сьветлячкі. Гэта былі купальскія жучкі. Іх было тут вельмі многа. З іх чарады абабраўся адзін жучок, сам тоненькі, але жывоцік у яго быў крыху таўсьцейшым, з прычыны чаго і агоньчык яго выдаваўся крыху больш заметна. Ён прымасьціўся на кары дубовага кораня, нарыхтаваўшыся сказаць прамову жучынай грамадцы.

І ён сказаў:

— Ёсьць многа на сьвеце агнёў, але яны аджылі свой час. Жыцьцё не стаіць на адным месцы, як казаў—вы чулі самі—і гэты дуб, стала быць, і сам агонь павінен перайсьці ў другія формы. Гэтымі другімі формамі і зьяўляемся мы, чуеце жучкі? мы!

Я засьмяяўся—вы чулі? я засьмяяўся, калі пачуў ад гэтага старога дубу, што яму падабаецца асьвятленьне зорак... Дзіўная справа гэты консэрватызм на сьвеце! Тут, пад яго ўласным карэньнем, на яго ўласнай кары, запаліліся сьвету новыя агні, а ён іх ня бачыць. Ды якія агні!.. Эй, жучок на лісьціку суніцы!

— Я!—азваўся чарвячок з сунічкі.

— Вы паглядзеце на яго агоньчык: колькі хараства! Колькі новых блескаў, я-б сказаў, новых агнявых вобразаў! І што такое зоры ў параўнаньні з нашымі агнямі? Блеск гнілякоў, балотны агонь!.. Або зьвярнеце вы ўвагу—я не саромлюся сказаць гэтага—на мой агонь: гэта адна, адна чыстая поэзія, поэзія вышэйшага гатунку! Вось што нашы агні.

У сухім леташнім лісьці пад карэньнямі дубу шаснула яшчарыца.

— Ну, а скажэце, будзьце ласкавы,—прамовіла яшчарыца:—каму сьвеціць ваш агонь?

— Як каму сьвеціць? Перш за ўсё ён сьвеціць нам самым. Мы ствараем новае хараство агнёў, у гэтым стварэньні мы адчуваем радасьць. А нам—тфу на сонца, на зоры, на месяц, на купальскія агні, што пазапальваны па лесе ў гэту ноч. Каля іх сялянская дурнота спраўляе свае танцы. Мы-ж самі—сонца, зоры, месяц!..

— Ха-ха-ха!—засьмяялася ночка:—мілыя вы жэўжыкі! Усё гэта вельмі забаўна, але самі вы—толькі малюпасенькі адбітак сонца, а вы плюяце на яго. Ну, што-ж? Ваш час, пазабаўляйцеся, дзеткі. Я зараз сыйду з зямлі, а ваш мілы агоньчык патухне ў бляску дня.

Засьмяяўся чалавек.

— Мілыя жучкі! калі я адыйдуся ад вас на два крокі, вашы агні зьнікнуць з маіх вачэй.

Чалавек разумеў іх, але мова чалавека была для іх немая мова.

1925 г.

## НОЧ, КАЛІ ПАПАРАЦЬ ЦЬВІЦЕ

*Прысьвячаецца Янку Купалу.*

Ну, з кожнай мясьцінкі зямлі можна пачаць дарогу. А калі гэтая мясьцінка была-б недаступна для людзкой нагі, то па ёй пройдзе хоць думка людзкая і ўсё-ж такі пакіне свой сьлядок і нейкую дарожку пралажыць.

Чамусь гэтая старонка лічылася заняпалаю старонкаю. І слава ўжо такая зλажылася аб ёй, аб прыродзе яе і аб людзях яе. А людзі тут усякія былі. Адны жылі тут спрадвеку, тут радзіліся і тут уміралі. Так і называліся яны—„тутэйшыя людзі“. А другія часта няпрошаныя заходзілі. Але яны казалі, што прышлі сюды затым, каб прынесьці дабро тутэйшым людзям. Але, як вядома. казаць можна адно, а рабіць зусім другое.

Усё гора тутэйшых людзей было ў тым, што за іх вельмі многа клапаціліся іх суседзі. Адны суседзі ім казалі: „Вы—гэта ня вы, а тое самае, што й мы. Дык нацэ-ж вам нашы парадкі, нашы школы, нашу мову, бо ваша мова такая-ж, як і наша, толькі вы яе папсавалі“. Тое самае казалі суседзі з другога боку, але толькі на свой лад.

Тутэйшыя людзі прымалі гэтае дабро з вялікаю неахвотаю, бо ім хацелася быць самымі сабой. Тады суседзі пачалі забіраць іх дзяцей. Бралі і выхоўвалі ў сваіх школах. Выхоўвалі так, каб яны пакідалі сваіх бацькоў і ад бацькаўскіх звычаяў адракаліся. І гэта ім удавалася—пакідалі дзеці бацькоў сваіх ды йшлі або на захад, або на ўсход, гледзячы па тым, дзе каму было лепей. Яны рабіліся слугамі сваіх суседзяў і ўжо стыдаліся прызнаваць сябе дзецьмі тутэйшых людзей.

На шчасьце тутэйшых людзей ня ўсе іх дзеці трапалі ў гэтыя школы і ня ўсе яны мелі такую падатлівую натуру. Сярод іх былі і такія, што нават і школы ня мелі сілы выкурыць з іх дух тутэйшых людзей, бо гэта былі шчырыя дзеці свайго народу.

Такім шчырым сынам свайго народу быў і гэты юнак. Аб ім ужо і казка зложана, а я хачу толькі пераказаць яе сваімі словамі.

Як вядома, герoі казак вельмі часта зьяўляюцца на сьвет у выніку тых ці іншых надзвычайных праяў або маюць на сабе які-небудзь надзвычайны знак. І ўжо адна гэта надзвычайнасьць робіць іх адразу героямі. Нічога такога ня было з нашым героем. І бацькі яго былі звычайныя тутэйшыя людзі. Хіба, можа, надзвычайнага тут было толькі тое, што хлопчык радзіўся нейк летам, у той час ці блізка таго, калі зацьвітае папараць. Ён нават і імя даў сабе сам: імя тае ночы, калі цьвіце гэтая папараць.

Гэтая маленькая рысачка ў жыцьці нашага героя, здавалася, сама па сабе ня мела вялікага значэньня. Але ґэта ня так: часамі самае маленькае знаходзіцца ў блізкай і цеснай сувязі з самым вялікім. Трэба толькі ўмець знайсьці месца іх стыку. Так было і тут. У тую самую ноч, калі зацьвітае папараць,—я толькі пераказваю тое, што ўжо зложана ў казках тутэйшых людзей,—пазьбіраліся на сходку русалкі, лясун, ваўкалакі, вадзянік, дамавік, зданьні і чараўнікі розных профэсій. Сход іх адбываўся на беразе аднаго вельмі прыгожага возера, атуленага задуменьнем кучаравых сосан. На гэтым возеры разаслаў месяц свой малюсенькі белы кужаль, а зоркі пасходзілі з неба і купаліся ў бліскучых пералівах вады, бы тыя дыямэнтавыя кветачкі. Ім хацелася паслухаць, аб чым будзе гаварыць гэты сход.

Аб Юнаку была гутарка тут.

Усім спадабалася якраз тое, што гэты Юнак даў сабе імя тэй ночы, калі папараць цьвіце і калі фантастычныя істоты свае сходы праводзяць. І цяпер яны думалі, які падарунак зрабіць Юнаку.

Старшынёю сходу быў Лясун.

— Дык хто чым хоча парадаваць Юнака?—спытаў старшыня.

Русалкі сказалі:

— Мы навучым яго сьпяваць прыгожыя песьні, бо песьні ўва ўсіх выпадках жыцьця патрэбны чалавеку. З песьнямі лягчэй на сьвеце жыць. „Адвечная песьня“.

— І аб нас ён песьню зложыць,—дадала адна русалка.

— Я падарую яму „Жалейку“,—азваўся Дамавік:—струмант гэты хоць і просты, але я навучу Юнака граць так, каб тутэйшыя людзі зачароўваліся ёю і прыходзілі да сьвядомасьці, чаму так сталася, што яны не гаспадары ў сваёй хаце.

— А я дам яму „Гусьлі“,—сказаў Вадзянік:—няхай апявае былую славу свайго народу і закідае ў сэрца яго імкненьне „заняць пачэснае месца між славянамі“.

Слухаў месячык гэтую размову. Яму таксама захацелася хоць чым дапамагчы Юнаку, і ён сказаў:

— А я пайду з ім яго „Шляхам жыцьця“ і буду асьвятляць яго дарогу, каб яму лягчэй было ў жыцьці прабівацца. Ён убачыць „Раскіданае гняздо“ свае айчыны. Аб гэтым „Раскіданым гнязьдзе“ раскажа ён людзям. Калі ён прыстане ў дарозе, я палажу яго спаць на высокім кургане і навею яму чароўны „Сон на кургане“ і буду асьвятляць яго дарогу, каб яму лягчэй было ў жыцьці прабівацца. У дарозе-ж ён спаткаецца з мілаю „Паўлінкаю“ і расказам аб ёй людзей павяселіць.

Выступіў і пануры Ваўкалак.

— У мяне крэпкія, гонкія ногі. Я пішу па зямлі сотні, тысячы вёрст. Я занясу на край сьвету яго песьні і думкі. Я дам яму словы гневу і абурэньня, каб молатам білі яны па струнах сэрца таго, хто прадае сваю айчыну.

— Я дам яму голас вечавога звону,—сказаў адзін чараўнік:—грымотамі будзе ён гучаць па ўсяму краю і за яго межамі.

— А мы саўём вянкі яго песьням з ранічных рос і сяміцьветных вясёлак,—сказалі зоры.

— А я што дам яму?—узяў слова сам старшыня:—я скажу маім пушчам-лясом паведаць яму адвечныя тайнасьці іх. Яго песьні я авею шумам бароў. Іх украсаю будзе мудрасьць векавечных дубоў. Я дам яму гарт і цьвёрдасьць грабу, каб да канца ён быў верным свайму народу. І ён аставіць яму вялікую „Спадчыну“. Давайце-ж панясём яму свае падарункі.

Усе падняліся, да Юнака пашлі і пазносілі яму шчодрыя дары.

А тымчасам сьвітаць пачынала.

Пакінулі зоры сваё купаньне. Месяц за беражок зямлі закаціўся.

Узышло сонейка.

Мільёны яго радасных сьмехаў рассыпаліся па зямлі і задрыжалі ў росах. Зірнула сонейка на бераг возера, дзе той сход адбываўся, і так весела-весела ўсьміхнулася—даведалася сонейка, што на сходцы рабілася.

— Хвалю іх за тое, што яны так багата Юнака адарылі,—сказала сонейка:—я скажу сваім хмаркам, каб не засланялі яны неба ў купальскую ноч: няхай гэтыя сходы пры ясным небе адбываюцца.

# ЗЬМЕСТ.

## Кнігі таго-ж аўтара.

**Апавяданьні.** Віленск. выд. 1912 г.
**Песьні жальбы**—збор вершаў. Выд. 1910 г.
**Родныя зьявы**—апавяданьні. 1912 г.
**Водгульле**—збор вершаў. Выд. „Сав. Бел." 1921 г.
**Батрак**—апавяд. вершам. 1913 г.
**Антось Лата**—драма. Выд. 1917 г.
**Новая зямля**—поэма. Выд. „Сав. Бел." 1923 г.
**У палескай глушы**—повесьць. Выд. Клецкіна. 1923 г.
**На рубяжы**—апавяданьні. Выд. Дз. Выд. 1924 г.
**Першыя крокі**—апавяданьні. Выд. Дз. ыд. 1924 г.
**Крок за крокам**—апавяданьні. Выд. Дз. Выд. 1924 г.
**У ціхай вадзе**—апавяданьні. Выд. Дз. Выд. 1924 г.
**Сымон Музыка**—поэма. 1925 г.
**етае палена**—апавяданьне 1913 г.
**Нёмнаў дар**—апавяданьне. 1913 г.
**Другое чытаньне.** 1908 г.
**Мэтодыка роднае мовы.** 1926 г.

## Падгатаўляюцца да друку.

**Збор апавяданьняў**—у прозе.
**У глыбі Палесься** (працяг пов. „У палескай глушы").
**На шляхох волі**—поэма.
**Збор дзіцячых апавяданьняў.**

